ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 46 (1580) | Аўторак, 13 чэрвеня 1961 года | Цана 4 кап.

## ЁН — НАШ СУЧАСНІК

У СУЗОР'І слаўных імён, якімі было так багата мінулае стагоддзе рускай гісторыі, яркім святлом ззяе імя «няўрымслівага Вісарыёна». Волат філасофскай думкі, рэвалюцыянер-дэмакрат, заснавальнік новай эстэтыкі, вялікі крытык і публіцыст, Бялінскі пакінуў у свядомасці чалавецтва след, які не зруйнуецца ніколі. Тысячу разоў меў рацыю Пляханаў, калі гаварыў: «Ён яшчэ не закончаны, Бялінскі. Гэта нейкі вугал, які раскрываецца далей, і ўся руская грамадскасць ёсць працяг праблемы, пастаўленай Бялінскім».

Здзіўляючая шматгранная спадчына Бялінскага складае бліскучую старонку сусветнай культуры. І як свята сусветнай культуры адзначаюць сёння ўсе прагрэсіўныя людзі зямнога шара 150-годдзе з дня нараджэння геніяльнага мысліцеля і барацьбіта. У нас, савецкіх грамадзян, пачуццё глыбокай пашаны да слаўнага сына радзімы зліваецца з пачуццём патрыятычнай гордасці за тое, што мы здзейснілі мары, якімі ён жыў і якія вялі яго на змаганне. Расія сёння, як і прадбачыў Бялінскі, узначальвае цывілізацыю, «дае законы літаратуры і мастацтва» і прымае шчырую даніну павагі «ад усяго адукаванага чалавецтва».

У імя гэтай будучыні, а нашай сучаснасці, «няўрымслівы Вісарыён» і аддаў сваё цудоўнае жыццё, якое не назавеш інакш, як подзвіг. У змрочныя гады царскага самаўладства, калі чорныя хмары рэакцыі густа засцілалі гарызонт, калі тыраны-прыгоннікі душылі ўсё жывое навокал, ён смела і рашуча выйшаў на дарогу са сцягам барацьбы ў руках. І гэта было не самаахвяраванне сентыментальна настроенага інтэлігента дзеля ачысткі свайго сумлення і душэўнай раўнавагі. Гэта была патрэба сэрца, якое ўсё збалелася болем радзімы, была бязмежная вера ў гістарычную асуджанасць свету цемры і бяспраўя і рэальная ацэнка сваіх магчымасцей у рэвалюцыянізацыі грамадства.

Нястомны шукальнік ісціны, Бялінскі перажыў цяжкі перыяд захапленняў гегелеўскай філасофіяй. Але ён заўсёды кіраваўся высокай рэвалюцыйнай мэтай, жыў страсцю байца за шчасце народа. «Любіць сваю радзіму, — гаварыў В. Р. Бялінскі, — значыць — палымяна жадаць, бачыць у ёй ажыццяўленне ідэала чалавецтва і па меры сіл сваіх садзейнічаць гэтаму». Яму самому прырода адмерала вялікую меру таленту і духоўных сіл, і ўсе яны без астачы былі прынесены на алтар Айчыны.

З імем Бялінскага звязаны пачатак новага этапу рэвалюцыйнай барацьбы ў краіне. Ул. І. Ленін назваў яго «папярэднікам поўнага выцяснення дваран разначынцамі ў нашым вызваленчым руху», падкрэсліўшы тым самым гістарычную заслугу вялікага мысліцеля і рэвалюцыянера-дэмакрата. Дзейнасць Бялінскага вырасла на слаўных традыцыях Радзішчава і дзекабрыстаў і разам з тым яна ўвасобіла патрэбы новай эпохі, калі рэвалюцыйнасць дваранства ўжо вычарпала сябе. Бялінскі прынёс у тэарэтычную і ідэйную барацьбу настроі шырокіх дэмакратычных слаёў грамадства. У якія высокія сферы філасофіі, палітыкі ці эстэтыкі ні пранікала яго думка, ён заўсёды зыходзіў з надзённых інтарэсаў і імкненняў сялянскіх мас. Ліквідацыя прыгоннага права была ў той час самай вострай праблемай грамадскага жыцця, і гэта абумовіла пафас усёй шматграннай творчасці Бялінскага.

Фізічнае жыццё вялікага мысліцеля абмежавана рамкамі першай палавіны мінулага стагоддзя. Яго духоўнае жыццё не будзе мець мяжы. Прынамсі мы, яго «ўнукі і праўнукі», з поўнай падставай гаворым: ён наш сучаснік, ён непасрэдны ўдзельнік спраў, якія мы здзяйсняем і будзем здзяйсняць. Пафасныя кнігі вялікага крытыка мы раскрываем сёння не толькі і не столькі для таго, каб дазнацца, што адбывалася паўтара стагоддзя назад. Яны дапамагаюць нам пры вырашэнні востра надзённых ідэалагічных праблем. Бялінскі таму і геній, што ён, зрабіўшы многа для сваёй эпохі, праклаў шырокую дарогу да свядомасці наступных пакаленняў.

Жывуць і змагаюцца эстэтычныя ідэі вялікага мысліцеля і яго багацейшая крытычная спадчына. Бялінскі тварыў у эпоху, надзвычай плённую ў развіцці рускай літаратуры, эпоху, азнаменаваную імёнамі Пушкіна і Гогаля, Лермантава і Кальцова. Адбываліся глыбокія змены ў саміх адносінах літаратуры да рэчаіснасці. Перамога рэалістычнага метаду адкрывала ёй дарогу да шматграннага і глыбока праўдзівага адлюстравання народнага жыцця. Бялінскі добра разумеў, якую вялікую ролю здолее адыграць літаратура ў абуджэнні народнай самасвядомасці, калі сіла рэалізму памножыцца на сілу перадавых ідэй часу, калі служэнне грамадскім інтарэсам будзе асновай асноў мастацкай творчасці. І ён са страсцю рэвалюцыйнага байца і смеласцю вялікага вучонага-наватара ўступіў у барацьбу за такую літаратуру, амаль адразу стаўшы яе прызнаным тэарэтыкам і правадыром. Папярэднікі не пакінулі яму эстэтычнай тэорыі, якая адпавядала б новаму характару і новым задачам літаратуры, і вялікі мысліцель у ходзе літаратурнай барацьбы выпрацоўваў сваю сістэму поглядаў, свае прынцыпы эстэтычнага мыслення. Так нараджалася эстэтыка рэвалюцыйнай дэмакратыі, якая ўзняла эстэтычную думку дамарксісцкага перыяду на вышэйшую ступень.

Першай і самай важнай асаблівасцю новай эстэтычнай сістэмы была яе цесная сувязь з філасофскімі і палітычнымі ідэямі рэвалюцыйнай дэмакратыі, яна ўся прасякнута пафасам актыўнага пазнання і пераўтварэння свету, духам класавай барацьбы. Бялінскі і яго непасрэдныя паслядоўнікі Чарнышэўскі і Дабралюбаў бачылі месца мастацтва не ў арыстакратычным салоне, а на барыкадах. Яны рашуча выступілі супраць так званага «чыстага мастацтва», разлічанага на вузкае кола спакушаных аматараў прыгожага.

У вышэйшай ступені актуальна гучаць сёння думкі Бялінскага аб тым, што зместам сапраўднага мастацтва з'яўляецца жыццё народа, яго інтарэсы, псіхалогія, побыт. Распрацоўваючы пытанні народнасці мастацтва, марксісцка-ленінская эстэтыка трывала абапіраецца на спадчыну рэвалюцыйных дэмакратаў. Бялінскаму ў гэтай спадчыне па праву належыць месца першага тэарэтыка, які крытэрый народнасці зрабіў галоўным прынцыпам разгляду літаратурнага працэсу і асобных мастацкіх твораў.

Гістарычныя ўмовы, у якіх тварыў Бялінскі, патрабавалі ад літаратуры перш за ўсё адмаўленчага пафасу, і вялікі крытык усім жарам сэрца падтрымліваў гогалеўскі напрамак творчасці. Але тыя, хто сцвярджае, быццам пафас выкрыцця і адмаўлення павінен пераважаць у мастацтве незалежна ад эпохі, і пры гэтым спасылаюцца на Бялінскага, проста не ў ладах з праўдай. Бялінскі заўсёды зыходзіў пры разглядзе літаратурнага працэсу з канкрэтна-гістарычных прадпасылак. І, гледзячы далёка наперад, ён гаварыў: «...Прывычка верна адлюстроўваць адмоўныя з'явы жыцця дасць магчымасць тым жа людзям або іх паслядоўнікам, калі прыйдзе час, верна адлюстроўваць і станоўчыя з'явы жыцця, не ставячы іх на хадулі, не перавялічваючы, словам, не ідэалізуючы іх рытарычна».

З глыбіні мінулага стагоддзя вялікі крытык геніяльна прадбачыў характар пошукаў літаратуры і мастацтва нашых дзён.

Створаная Бялінскім і развітая яго паслядоўнікамі Чарнышэўскім і Дабралюбавым тэорыя рэалізму не толькі стала сцягам рускай літаратуры на цэлы гістарычны перыяд — яна і сёння валодае вялікай сілай уздзеяння на літаратурна-мастацкі працэс. Гэта невычэрпная крыніца ідэй, баявая школа мастацкага майстэрства. Кнігі Бялінскага клічуць пісьменнікаў і мастакоў да ўмацавання сувязі з сучаснасцю, патрабуюць высокай ідэйнасці і мастацкай дасканаласці твораў, вучаць гаварыць суровую праўду жыцця. Велічная фігура Бялінскага ўзвышаецца і на полі схваткі прагрэсіўнага мастацтва свету з рэакцыйнай эстэтыкай капіталістычнага Захаду. Невыпадкова ідэолагі капіталізму спрабуюць усяляк сказіць спадчыну геніяльнага мысліцеля, выдаючы ў ёй за асноўнае тое, што ў сапраўднасці мела выпадковы характар.

Бялінскі служыць для нас узорам высокага майстэрства літаратурна-мастацкай крытыкі. Здзіўляючая шырыня і канцэптуальнасць погляду на літаратуру спалучаецца ў яго з пільнай увагай да «тэхналогіі» мастацкага твора, да самых, здавалася б, нязначных драбніц мастацкага палатна.

Ёсць у Бялінскага цікавая думка: «Каб паэтычна адлюстроўваць рэчаіснасць, мала аднаго прыроднага таленту: трэба яшчэ каб пад рукою паэта была паэтычная рэчаіснасць». І як бы парадаваўся наш вялікі продак за савецкіх пісьменнікаў і мастакоў, калі б мог паглядзець, з якім жыццёвым матэрыялам маюць яны справу! Натхнёныя, пафасныя творы пра наш гераічны час будуць лепшым помнікам яму, слаўнаму з слаўных сыноў радзімы, які, быццам горкаўскі Данка, асвятляў полымем свайго сэрца шлях літаратуры і мастацтву.

## ВЕЛІЧ БЯЛІНСКАГА

Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі карыстаецца павагай многіх пакаленняў людзей, якія на кожным новым гістарычным этапе спрабуюць яшчэ больш глыбока і ўсебакова асэнсаваць яго месца ў развіцці філасофскай, грамадскай, эстэтычнай думкі, уявіць значэнне яго духоўнай спадчыны.

Савецкія людзі, працоўныя краін народнай дэмакратыі шануюць мужнага барацьбіта супраць прыгоннага права, самадзяржаўя, прагавітага шукальніка ісціны і праўды. Блізкая духоўная спадчына Бялінскага і народам капіталістычнага свету, якія змагаюцца за сваё эканамічнае, палітычнае і нацыянальнае вызваленне.

Не стаялі ў баку ад імя Бялінскага і рэакцыйныя сілы. Яны прымаюць усе захады да фальсіфікацыі творчасці вялікага крытыка і рэвалюцыйнага дэмакрата.

На брудным паклёпе супраць Бялінскага і іншых мысліцеляў нашай краіны спецыялізуюцца зараз белаэмігранты тыпу Н. Лоскага, В. Зяньkоўскага. У фальсіфікацыі рускай грамадскай думкі актыўны ўдзел прымаюць і заморскія так званыя «спецыялісты» па рускай культуры — П. Шайберт, Р. Хеер, Б. Шульцэ. У бруднай кніжцы аб Бялінскім нейкага Бернгарда Шульцэ, выдадзенай у 1958 г. у Мюнхене, вялікі мысліцель-матэрыяліст падаецца як богашукальнік. Шульцэ нават аспрэчвае антырэлігійную мэтанакіраванасць пісьма Бялінскага да Гогаля.

Аўтар кнігі, фальсіфікатар і паклёпнік, шляхам тэндэнцыйнага падбору ўрыўкаў з артыкулаў Бялінскага і нядобрасумленнай іх інтэрпрэтацыі даказвае, што крытык ніколі не пакідаў веры. Шульцэ запэўняе, што Бялінскі заўсёды хадзіў у вучнях заходнееўрапейскіх філосафаў, што ён нібыта «займаў выключнае месца: усе былі настаўнікамі, ён адзін заставаўся вучнем». Бонскі даследчык П. Шайберт у кніжцы «Ад Бакуніна да Леніна» сцвярджае, быццам Бялінскі ў канцы свайго жыцця быў прыхільнікам «асветнага абсалютызму» і буржуазіі.

І гэта Бялінскага называюць прыхільнікам, вучнем заходнееўрапейскіх мысліцеляў, прыхільнікам самадзяржаўя і абсалютызму, Бялінскага, чый моцны голас у змрочную эпоху 40-х гадоў XIX стагоддзя вяшчаў ідэі вызвалення і чый велічны геній няспынна шукаў ісціну, аб'явіў бязлітасную вайну прыгоннаму рэжыму Мікалая Палкіна, узняў яркі свяцільнік навуковай думкі. Калі грамадская думка сутаргава сціскалася ад навакольнага холаду і бездапаможна мітусілася ў поцемках змрочнай эпохі, гаворыць С. М. Кіраў, Бялінскі ў гэты час увасобіў пратэст супраць паскуднай рэчаіснасці, а яго творы, уяўляючы сабой неацэнны сплаў палітыкі, філасофіі, сацыялогіі, эстэтыкі, сталі настольнымі кнігамі рускай інтэлігенцыі, якая шукала адказы на сацыяльныя пытанні, што мучылі яе.

В. Р. Бялінскі за сваё кароткае жыццё (ён пражыў усяго 37 год) прайшоў цяжкі шлях: ад метафізікі і галаваломных лабірынтаў голай гегелеўскай абстракцыі да матэрыялістычнага светапогляду, ад дыялектыкі паняцця—да разумення дыялектыкі аб'ектыўнага свету, да разумення яе як «алгебры рэвалюцыі», ад прымірэння з нікчэмнай рэчаіснасцю—да актыўнай барацьбы супраць існуючага палітычнага ладу.

У адрозненне ад усіх філосафаў дамарксісцкага перыяду Бялінскі быў першы, хто ўзначаліў ідэалогію рэвалюцыйнага сялянства, класа працоўнага і паднявольнага, ён быў прыхільнікам сацыяльнай рэвалюцыі і сацыялізма. Праўда, яго сацыялізм быў утапічны, але ў той жа час ён грунтаваўся на праграме сялянскай рэвалюцыі са знішчэннем самадзяржаўя, на ліквідацыі буйнага памешчыцкага землеўласніцтва, на падзеле зямлі паміж сялянамі.

Бялінскі самастойна прыйшоў да вываду, што пытанне аб вызваленні сялян, як ён гаварыў, вырашыцца або адменай прыгоннага права зверху пад пагрозай народнага паўстання або ў тысячу разоў больш непрыемным шляхам для рускага дваранства. У пісьме да Гогаля Бялінскі адзначаў, што ў Расіі самыя сучасныя нацыянальныя пытанні: «знішчэнне прыгоннага права, адмена цялесных пакаранняў, увядзенне па магчымасці строгага выканання хоць бы тых законаў, якія ўжо ёсць». Але было б няправільна думаць, што аўтар пісьма абмяжоўваў рашэнне «важных нацыянальных пытанняў» толькі фармальнай адменай прыгоннага права. Яго пісьмо накіравана значна далей — да патрабавання замены існуючага грамадскага ладу. Бялінскі патрабаваў поўнага разняволення народа, а гэта магчыма, як вядома, толькі пры знішчэнні прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці і эксплуатацыі чалавека чалавекам.

Не выпадкова Ленін узяў пад абарону Бялінскага ад вехаўцаў, якія пісьмо да Гогаля кваліфікавалі як «палкае і класічнае адлюстраванне інтэлігенцкага настрою».

Пісьмо Бялінскага да Гогаля Ленін назваў адным з лепшых твораў бесцэнзурнага дэмакратычнага друку, які захаваў жывое значэнне і да гэтага часу.

У канцы жыцця і творчай дзейнасці Бялінскі звярнуў увагу на прагрэсіўную ролю капіталізму ў развіцці краіны. У лютым 1848 г. Вісарыён Рыгоравіч у пісьме да Боткіна пісаў, што «ўнутраны працэс грамадскага развіцця ў Расіі пачнецца не раней, як з той хвіліны, калі рускае дваранства пераўтворыцца ў буржуазнае». Амаль што адначасова, у студзені гэтага ж года, гэта значыць на месяц раней, Энгельс у артыкуле «Рухі 1847 года» пісаў аб Расіі: «У Расіі прамысловасць развіваецца гіганцкімі крокамі і пераўтварае нават рускіх баяр усё больш і больш у буржуа. Прыгонная залежнасць падвяргаецца абмежаванням у Расіі і Польшчы, што азначае аслабленне дваранства ў інтарэсах буржуазіі і стварэнне свабоднага сялянскага класа, у якім буржуазія ўсюды мае патрэбу».

Тут размова можа ісці, безумоўна, не аб запазычанасці і нават не аб уплыве ідэй Маркса і Энгельса на Бялінскага, бо вядома, што хоць ён і ведаў некаторыя іх артыкулы (К. Маркс—«Да крытыкі гегелеўскай філасофіі права», Ф. Энгельс—«Шэлінг і яго адкрыццё»), але прамых паказанняў аб прыняцці ім марксізма няма. Па прызнанню Бялінскага, выходзячы з вядомых яму артыкулаў, у Маркса яму падабалася крытыка рэлігіі і грамадскіх парадкаў, а ў Энгельса — усебаковая і рэзкая крытыка філасофіі Шэлінга. Веліч Бялінскага заключаецца ў тым, што ён сілай свайго аналізу здолеў блізка падысці да разумення гістарычнага шляху развіцця грамадства.

Буржуазію Бялінскі разглядаў як гістарычную з'яву, якая мела сваё вялікае мінулае, сваю гісторыю і мае пэўныя заслугі перад чалавецтвам. Празарлівасць мысліцеля дапамагала яму ўбачыць неаднароднасць класа буржуазіі. Ён гаварыў, што не на буржуазію наогул, а на вялікіх капіталістаў трэба нападаць, як «на чуму і халеру». Усё ў капіталістычным грамадстве, пісаў Бялінскі, дробна, нікчэмна, супярэчліва. Капіталістычнае ўладарніцтва пакрыла краіны Еўропы вечнай ганьбай. У капіталістаў няма пачуццяў нацыянальнага гонару, нацыянальнай гордасці. Гора дзяржаве, якая ў руках капіталістаў, — пісаў ён.

Адначасова з бязлітаснай крытыкай капіталізму Бялінскі выказваў блізкае да гістарычнага матэрыялізму палажэнне аб бесперспектыўнасці капіталістычнага ладу. У адным з пісьмаў ён заяўляе, што прамысловасць — крыніца вялікіх няшчасцяў, але яна — і крыніца вялікай карысці для грамадства. «Яна (прамысловасць.— **К. Б.**) толькі **апошняе няшчасце** (падкрэслена намі.—**К. Б.**) ва ўладанні капіталам, у яго тыраніі над працай». Убачыць у капіталізме «апошняе зло», калі ў Расіі яшчэ панавала прыгоннае права,—значыць узняцца вельмі высока ў разуменні гістарычных з'яў, аб'ектыўных законаў развіцця чалавечага грамадства. Ён быў упэўнен, што наш народ толькі праз пераўтварэнне прыгоннай Расіі ў Расію капіталістычную прыйдзе да канчатковага вызвалення і ад царызму і ад капіталізму; праўда, якімі шляхамі—Бялінскі не ведаў.

Пралетарыят ён разглядаў толькі як прыгнечаную масу і не больш. У рабочым класе не заўважыў магільшчыка капіталістычнага ладу, вызваліцеля ўсіх працоўных ад прыгнёту і няроўнасці. Але Бялінскі верыў у сілу свайго народа, калі гаварыў, што вялікія сацыяльныя праблемы будуць вырашаны рускім народам.

В. Р. Бялінскі здолеў крытычна ацаніць апошняе слова замежнай філасофіі, рашуча выступіць супраць містыцызму, ідэалізму і вульгарнага матэрыялізму і тым самым узняць матэрыялізм у Расіі на новую ступень, але ён не здолеў узняцца да дыялектычнага і гістарычнага матэрыялізму. Дыялектыку Бялінскі арганічна не звязваў з матэрыялізмам, таму яна і не з'яўлялася ў яго навуковым метадам у пазнанні навакольнага свету. Рэвалюцыйны дэмакратызм Бялінскага грунтаваўся на матэрыялістычнай філасофіі. У сувязі з гэтым Бялінскі, які, паводле слоў Пляханава, валодаў чуццём «геніяльнага сацыёлага», галоўным прадметам сваёй разумовай працы лічыў адмаўленне абстрактнага, утапічнага ідэалу, абапіраючыся на заканамернае развіццё самога грамадскага жыцця.

На гістарычнае значэнне Бялінскага як рэвалюцыйнага дэмакрата, у тэарэтычных поглядах якога галоўнае месца займае матэрыялізм і дыялектыка, указваў Ул. І. Ленін. Ленін пісаў, што пачатак пошукаў «правільнай рэвалюцыйнай тэорыі» адносіцца да 40-х гадоў XIX стагоддзя. Безумоўна, калі Ленін гаварыў, што Расія марксізм сапраўды выпакутавала паўвяковай гісторыяй нечуваных пакут і ахвяр, нябачанага рэвалюцыйнага гераізму, незвычайнай энергіі і самаахвярных пошукаў, расчараванняў, ён бясспрэчна меў на ўвазе і Бялінскага, які адным з першых выпакутаваў на рускай глебе пераход да матэрыялізму. Называючы Бялінскага папярэднікам сацыял-дэмакратыі, Ленін тым самым уключыў яго літаратурную спадчыну ў гранітную тэарэтычную базу, на якой фармаваліся погляды прамых папярэднікаў навуковага камунізма ў нашай краіне. У развіцці рэвалюцыйнага дэмакратычнага руху, ва ўзбагачэнні матэрыялістычнай філасофскай думкі і палымяным пратэсце супраць існуючага палітычнага ладу, у закліках да раўнапраўя і свабоды і заключаецца вялікая роля Бялінскага ў духоўным жыцці савецкіх людзей.

К. БУСЛАЎ.

> СВАБОДА ТВОРЧАСЦІ ЛЁГКА СПАЛУЧАЕЦЦА СА СЛУЖЭННЕМ СУЧАСНАСЦІ; ДЛЯ ГЭТАГА НЕ ТРЭБА ПРЫМУШАЦЬ СЯБЕ ПІСАЦЬ НА ТЭМЫ, ГВАЛЦІЦЬ ФАНТАЗІЮ; ДЛЯ ГЭТАГА ТРЭБА БЫЦЬ ТОЛЬКІ ГРАМАДЗЯНІНАМ, СЫНАМ СВАЙГО ГРАМАДСТВА, СВАЁЙ ЭПОХІ, ЗРАЗУМЕЦЬ ЯГО ІНТАРЭСЫ, ЗЛІЦЬ СВАЕ ІМКНЕННІ З ЯГО ІМКНЕННЯМІ; ДЛЯ ГЭТАГА ПАТРЭБНА СІМПАТЫЯ, ЛЮБОЎ, ЗДАРОВАЕ ПРАКТЫЧНАЕ ПАЧУЦЦЁ ІСЦІНЫ, ЯКОЕ НЕ АДДЗЯЛЯЕ ПЕРАКАНАННЯ АД ПАЧУЦЦЯ ІСЦІНЫ, ТВОРЫ АД ЖЫЦЦЯ.
>
> В. Р. БЯЛІНСКІ.

## Падзеі, факты, навіны

### КУРС — НА МАЯКІ

*Ужо некалькі год у Самуйлавіцкім сельскім клубе Мастоўскага раёна добра працуе мастацкая самадзейнасць. Тут часта ставяцца змястоўныя канцэрты. У рэпертуары — народныя песні, танцы, невялікія п'есы. Сёлета калектыў паказаў ужо сваім гледачам вадэвіль «Прымакі» Я. Купалы і двухактовую п'есу «Мікітаў лапаць» М. Чарота. Цяпер развучваюць аднаактовую п'есу «Адважныя сэрцы».*

*З канцэртамі калектыў выступае не толькі ў брыгадах свайго калгаса, але і ў суседніх арцелях імя Міцкевіча і імя Дзяржынскага.*

*Клуб праводзіць вялікую работу па распаўсюджванню перадавога вопыту. Нядаўна быў праведзен тэматычны вечар «Раўненне на маякі». Загадзя быў афармлен стэнд, на якім змешчаны фатаграфіі перадавых людзей вёскі. Аграном калгаса т. Пратаковіч расказаў пра поспехі перадавікоў, заклікаў усіх членаў арцелі следаваць іх прыкладу. Потым пра вопыт сваёй работы расказалі лепшая даярка калгаса Ганна Малевіч і звеннявая-ільнаводка Ніна Казак. Выкладчык біялогіі Самуйлавіцкай сярэдняй школы Алена Кановіч пазнаёміла прысутных з агратэхнікай вырошчвання тытуню.*

П. ВАЙЦЯХОЎСКІ.

### ПРЫСВЕЧАНЫ БЯЛІНСКАМУ

Учора ў памяшканні Дзяржаўнага рускага драматычнага тэатра імя М. Горкага адбыўся агульнагарадскі вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння В. Р. Бялінскага. Уступнае слова пра вялікага крытыка сказаў старшыня Беларускага рэспубліканскага камітэта па святкаванню юбілейнай даты Пятрусь Броўка. Даклад аб жыцці і творчасці В. Р. Бялінскага зрабіў кандыдат філасофскіх навук К. П. Буслаў.

### Сустрэчы з юнымі гледачамі

У Гродна з вялікім поспехам праходзяць гастролі Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Школьнікі і моладзь ужо пазнаёміліся са спектаклямі «Папараць-кветка» І. Козела, «Дзяўчына з вяснушкамі» А. Успенскага і «Квартэт Алямбар» М. Вінніkава. Самаму маленькаму гледачу паказаны спектаклі «Прыгоды Чыпаліна», «Казачны домік» і «На граніцы».

Калектыў тэатра выязджае са спектаклямі ў сельскія дамы культуры. Адбыліся першыя сустрэчы артыстаў з працаўнікамі калгасных палёў. Так, калгаснікі сельгасарцелі імя Сталіна Гродзенскага раёна на сцэне свайго Палаца культуры прагледзелі спектакль па п'есе «Не верце цішыні» І. Шамякіна.

У Салігорску пачаў працаваць шырокаэкранны кінатэатр «Салігорск».

**На здымку:** новы кінатэатр беларускіх шахцёраў.

Фота **П. Чайкоўскага.**

### Канцэрты для ўсіх

У гэты цудоўны чэрвеньскі вечар у мінулую суботу амаль на ўсіх плошчах, у вялікіх скверах і парках беларускай сталіцы гучалі мелодыі знаёмых і незнаёмых нам песень, хораў; на адкрытых сцэнічных пляцоўках выступалі духавыя і народныя аркестры, у віхуры імклівага танца праносіліся танцоры. Можна падумаць, што гаворка ідзе пра які-небудзь музычны фестываль ці конкурс артыстаў-выканаўцаў. Зусім не. Гэта быў, як яго сціпла назвалі, «Вечар савецкай музыкі», упершыню арганізаваны для шырокіх колаў слухачоў гаркомам партыі і гарвыканкомам сумесна з Міністэрствам культуры БССР.

На Цэнтральнай плошчы сталіцы шырокую і разнастайную праграму цікавага вечара адкрыў узорны духавы аркестр штаба Беларускай ваеннай акругі, які пад кіраўніцтвам дырыжора А. Майзлера выканаў інструментальныя творы савецкіх, у тым ліку беларускіх, кампазітараў. Услед за ваеннымі музыкантамі на той жа эстрадзе выступалі Дзяржаўны народны аркестр БССР, Акадэмічная харавая капэла, калектывы музычна-танцавальнай самадзейнасці Палаца культуры прафсаюзаў.

А ў гэты ж час у парку імя Горкага з сучаснымі песнямі і музычнымі п'есамі знаёмілі слухачоў вучні музычнай школы-адзінаццацігодкі і музычнага вучылішча імя Глінкі, духавы аркестр тонкасуконнага камбіната.

Вялікія канцэрты адбыліся на дзевяці адкрытых пляцоўках у розных месцах Мінска — на плошчы аўтазаводскага пасёлка, у лесапарку Сталінскага раёна, у пасёлку цагельнага завода № 2 і г. д. У вечары савецкай музыкі ўдзельнічала да 30 прафесіянальных і самадзейных творчых калектываў. Такая форма азнаямлення мінчан з сучасным рэпертуарам савецкіх аўтараў, і асабліва кампазітараў нашай рэспублікі — карысная справа.

**На здымку:** выступае Акадэмічная харавая капэла БССР.

Фота **Ул. Крука.**

1811

# ВЯЛІКІ МЫСЛІЦЕЛЬ, ТРЫБУН, НАСТАЎНІК

«Вялікія рэкі складаюцца з мноства іншых, якія, быццам звычайную даніну, нясуць ім багацце вод сваіх. І хто можа раскласці хімічна ваду, напрыклад, Волгі, каб паказаць у ёй воды Акі ці Камы? Прыняўшы ў сябе столькі рэк, і вялікіх і малых, Волга пышна коціць свае ўласныя хвалі, і ўсе, ведаючы пра яе бясконцыя запазычанні, не могуць указаць ні на адно з іх».

Пачаць гутарку пра Бялінскага з гэтага яго параўнання творчасці Пушкіна з прыгажуняй-Волгай хочацца не толькі таму, што яно стасуецца і да творчасці самога вялікага крытыка.

Ленінская характарыстыка адкрыла адзіна правільны метадалагічны падыход да вывучэння спадчыны Бялінскага. У нас шмат з'явілася прац і даследаванняў аб філасофскіх, эстэтычных, гістарычных, педагагічных, атэістычных поглядах Бялінскага. Чытаючы гэтыя цікавыя, змястоўныя даследаванні, яшчэ раз пераконваешся, якой неабдымна-шырокай была дзейнасць Бялінскага. Але ў той жа час і застаецца пачуццё нездавальнення. Дзіўна, але даследчыкі нярэдка забываюць, што Бялінскі быў у першую чаргу літаратурны крытык. У некаторых працах аб гэтым упамінаецца мімаходзь, быццам крытычная дзейнасць для Бялінскага была выпадковай. З крытычных артыкулаў старанна выбіраюцца думкі філасофскага характару, гістарычнага, выказаныя наконт мастацкіх з'яў, і думкі гэтыя прыводзяцца асобна, адарвана ад іх першаасновы. Таму ствараецца ўражанне, што і нашы даследчыкі штучна разрываюць творчасць Бялінскага, механічна раскладваюць на састаўныя часткі тое, што ўтварае адзінае магутнае мора-акіян спадчыны вялікага трыбуна і змагара за праўду.

Мы не можам забываць, што Бялінскі быў заснавальнікам крытыкі, якая пачала разглядаць мастацтва з вышыні вялікіх прагрэсіўных задач, задач служэння яе народу. «У крытыцы нашага часу, — гаварыў Бялінскі, — больш, чым у іншай якой з'яве, выявіўся дух часу». У літаратурнай і эстэтычнай крытыцы выявілялася свядомасць тагачаснага грамадства. Бялінскі пісаў, што крытыка ёсць уладарная царыца сучаснага разумовага жыцця, што яна з'яўляецца выхавальнікам грамадства, барацьбітом за прагрэсіўныя шляхі яго развіцця. На думку Вісарыёна Рыгоравіча, галоўнае ў крытыцы — гэта прымяненне тэарэтычных ісцін на практыцы. І Бялінскі ў першую чаргу сам даў неўміручыя прыклады гэтага. Ён даў ідэал крытыка-грамадзяніна, бясстрашнага змагара за праўду.

Вельмі цікавыя непасрэдныя думкі Бялінскага пра крытыка. Талент крытыка, адзначаў Бялінскі, рэдкі, шлях яго цяжкі. Крытык павінен стаяць на ўзроўні свайго веку, валодаць яго філасофіяй, каб мець магчымасць разглядаць твор мастацтва ў сувязі з эпохай, з гісторыяй народа і яго сучасным жыццём. Крытык абавязан валодаць добрым эстэтычным густам, бо вызначэнне эстэтычнай сутнасці твора—першачарговая яго задача. Крытык—гэта чалавек высокіх прынцыпаў, крыштальна-чыстай маралі, бо пры ацэнцы твораў ён не можа ісці на хаўрус з сумленнем. Калі выдавец часопіса «Отечественные записки» Краеўскі запрасіў Бялінскага супрацоўнічаць у рэдакцыі, то Вісарыён Рыгоравіч паставіў умову, што ён павінен быць незалежным у сваіх думках. «На маю думку, — пісаў Бялінскі, — не толькі лепш маўчаць і цярпець нястачы, але нават загінуць, чым гаварыць не тое, што думаеш».

І Бялінскі стаў уладаром дум і мар цэлых пакаленняў Расіі. Ён стаў правадыром і арганізатарам рускай літаратуры, тэарэтыкам і настаўнікам, пракладвальнікам новых яе, яшчэ нязведаных шляхоў. «Літаратуры расійскай — маё жыццё і мая кроў!» — гаварыў Бялінскі. І ён усё жыццё, усю энергію да апошняга дыхання аддаў рускай літаратуры. Бялінскі першы асвятліў гістарычны працэс развіцця рускай літаратуры і распрацаваў самыя складаныя пытанні яе спецыфікі.

Бялінскі быў сучаснікам Пушкіна і яго аднадумцам па барацьбе з прыгонніцкай тыраніяй. Малады крытык пачуў у голасе пушкінскай музы і гнеўны пратэст супраць душыцеляў свабоды рускага народа, і клятву вернасці традыцыям толькі што разгромленых дзекабрыстаў, і запавет наступным пакаленням ажыццявіць іх ідэалы. Ужо з самых першых выступленняў у друку Вісарыён Рыгоравіч горача вітае талент Пушкіна, дае самыя высокія ацэнкі яго творчасці як глыбока народнай і прагрэсіўнай па свайму характару. Да творчасці Пушкіна Бялінскі звяртаўся шмат разоў, пакінуўшы самы глыбокі разгляд пушкінскай спадчыны. «Пушкін належыць,—пісаў Бялінскі ў 1841 годзе, — да вечна жывых і рухомых з'яў, якія не спыняюцца і працягваюць развівацца ў свядомасці грамадства. Кожная эпоха выказвае пра іх сваю думку, і як бы ні зразумела яна іх правільна, але заўсёды пакіне і для наступнай эпохі сказаць што-небудзь новае і больш правільнае, і ні адна і ніколі не выкажа ўсяго».

Бялінскі быў выхавацелем і ідэйным настаўнікам таленавітай плеяды рускіх пісьменнікаў, імёны якіх будуць вечна жыць у гісторыі нашай Радзімы. Калі пачаў друкавацца невядомы яшчэ нікому паэт Лермантаў, Бялінскі прадказаў яго творчасці вялікую будучыню.

Пафасам барацьбы супраць самадзяржаўя, імкненнем да актыўнай дзейнасці, светлай верай у лепшую будучыню свайго народа прасякнуты сацыялагічныя і эстэтычныя погляды Бялінскага пасля яго кароткачасовага прымірэння з мікалаеўскай рэчаіснасцю. Крытык назаўсёды адмаўляецца ад вытлумачэння працэсу творчасці як несвядомай стыхіі. Разглядаючы ў 1841 годзе вершы Апалона Майкава, Бялінскі вельмі выразна фармулюе рэвалюцыйна-дэмакратычныя прынцыпы сваёй эстэтычнай праграмы: «Для поспеху ў паэзіі цяпер мала аднаго таленту: патрэбна яшчэ і развіццё ў духу часу. Паэт ужо не можа жыць у летуценным свеце; усё мінулае павінна жыць у ім». Калі ўсе рэакцыйныя крытыкі напалі на Гогаля за яго бязлітасную сатыру, якая, на думку гэтых крытыкаў, накіравана была на падрыў усіх маральных устояў Расіі, то Бялінскі ўсхвалявана, горача вітаў гогалеўскі сатырычны талент. Ён ахарактарызаваў творчасць пісьменніка як сапраўды народную. «Гогаль першы паглядзеў смела і прама на рускую рэчаіснасць», — сказаў Бялінскі.

У гэты перыяд Бялінскі пераглядае свае ацэнкі камедыі Грыбаедава «Гора ад розуму», падкрэсліваючы яе вялікае грамадскае значэнне. Сапраўды народнымі, самабытнымі, нацыянальнымі лічыць крытык байкі Крылова. Байкі гэтыя, на думку Бялінскага, «будуць чытацца да таго часу, пакуль рускае слова не перастане быць жывой мовай жывога народа».

Першы твор Дастаеўскага — раман «Бедныя людзі» Бялінскі прачытаў яшчэ ў рукапісу. Крытык папрасіў хутчэй пазнаёміць яго з аўтарам твора. Як толькі Дастаеўскі зайшоў, Бялінскі ўсхвалявана загаварыў: «Ды вы разумееце самі, што гэта вы такое напісалі? Вы толькі непасрэдным чуццём, як мастак, гэта маглі напісаць, але ці асэнсавалі вы самі ўсю гэтую страшэнную праўду, на якую нам паказалі?.. Вам праўда адкрыта і дадзена як мастаку, дасталася як дар, цаніце ж ваш дар...»

Як вядома, Дастаеўскі не застаўся верным гэтаму запавету свайго першага настаўніка. Асуджаны на катаргу за чытанне вядомага пісьма Бялінскага да Гогаля, Дастаеўскі, вярнуўшыся са ссылкі, далучыўся да лагера рэакцыі. Але і праз трыццаць год пасля сустрэчы з Бялінскім Дастаеўскі, цяпер ужо ідэйны яго вораг, з захапленнем прыгадваў тую сустрэчу. «Тады адбылося штосьці такое маладое, свежае, добрае... Гэта была самая светлая хвіліна ў маім жыцці. Я на катарзе, успамінаючы яе, мацнеў духам».

Бялінскі адкрыў рускаму грамадству самабытнага паэта-песенніка Кальцова.

Але Бялінскі не заўсёды садзейнічаў распаўсюджванню першых кніжак маладых аўтараў на той падставе, што пачынаючым пісьменнікам быццам можна дараваць слабасці і нявопытнасць. Наадварот, калі такія творы пачынаючага аўтара былі фальшывыя, слабыя ў ідэйных і мастацкіх адносінах, крытык не рабіў ім ніякіх скідак. Так было, напрыклад, з першай кнігай вершаў Някрасава «Мечты и звуки», якую крытык сустрэў вельмі сурова. Някрасаў не знайшоў іншага выхаду, як самому скупіць у магазінах сваю кніжку і знішчыць. Такая патрабавальная крытыка Бялінскага толькі дапамагла маладому паэту знайсці правільны шлях у літаратуру. «Мая сустрэча з Бялінскім была маім выратаваннем», — піша Някрасаў.

Мастацтва павінна служыць мэтам пераўтварэння грамадства, і Бялінскі горача прапагандуе ідэю аб цеснай сувязі літаратуры з рэчаіснасцю, з жыццём народа. Вось вельмі цікавы вывад Бялінскага, вывад, які мае актуальнае значэнне і ў нашы дні: «Свабода творчасці лёгка спалучаецца са служэннем сучаснасці: для гэтага не трэба прымушаць сябе пісаць на тэмы, гвалціць фантазію; для гэтага трэба быць толькі грамадзянінам, сынам свайго грамадства, сваёй эпохі, зразумець яго інтарэсы, зліць свае імкненні з яго імкненнямі; для гэтага патрэбна сімпатыя, любоў, здаровае практычнае пачуццё ісціны, якое не аддзяляе перакананне ад пачуцця ісціны, творы ад жыцця».

Пад ідэйным уплывам Бялінскага разгортваецца творчасць Някрасава, Тургенева, Грыгаровіча, якія ствараюць праўдзівыя карціны жыцця народных нізоў, даюць тыпы простых сялян.

Вяршыняй творчасці Бялінскага як літаратурнага крытыка і мысліцеля з'явілася яго славутае «Пісьмо да Гогаля», напісанае ўвосень 1847 года ў сувязі з выхадам кнігі Гогаля «Выбраныя мясціны з перапіскі з сябрамі». У гэтай кніжцы аўтар «Мёртвых душ» і «Рэвізора» адкрыта выступіў у абарону прыгонніцтва, ён вучыў рускага памешчыка трымаць селяніна ў невуцтве, у страху перад рэлігіяй.

Бялінскі, які яшчэ і раней, пры самых станоўчых ацэнках гогалеўскіх мастацкіх твораў, не абыходзіў ідэйных памылак пісьменніка, на гэты раз выступіў з непрымірымай рэзкай крытыкай яго цемрашальскіх пропаведзяў.

У пісьме да Гогаля Бялінскі выступае як вораг самадзяржаўя, як прыхільнік і ідэолаг сялянскай рэвалюцыі. Крытык бачыць выратаванне Расіі не ў пропаведзях рэлігійнага светапогляду, не ў самавыхаванні памешчыкаў, а ў ліквідацыі прыгонніцтва, самадзяржаўя.

У Бялінскага свой адметны стыль. Гэта стыль, у якім спалучаюцца тэмперамент байца, эрудыцыя вучонага-энцыклапедыста, тонкі густ мастака, палымянасць патрыёта, дбайнасць гаспадара.

Усе інтанацыі голасу, усе адценні музыкі пералліваюцца ў гэтым моры-акіяне. Разважлівы, спакойны голас гісторыка, філосафа раптам напаўняецца нотамі гнеўнага абурэння супраць агіднага, пачварнага; ласкавы, лірычны роздум перарастае ў едкі сарказм. Колкі град стрэл і калючак абрушваецца на рэакцыянераў, абаронцаў безыдэйнасці!

Здзіўляе і зачароўвае багацейшы арсенал выяўленчых сродкаў крытыка: тут і найглыбейшыя экскурсы ў старажытнасць, і палеміка з філосафамі і крытыкамі ўсіх часоў і народаў, і надзвычай смелыя, экспрэсіўныя параўнанні, і акрэсленыя тэарэтычныя вывады, многія з якіх маюць значэнне і ў нашы дні. «Так званы рамантызм дваццатых гадоў — гэта юнак-недавучка з растрапанымі валасамі». А якое хвалюючае параўнанне паэзіі з пацалункам каханай, з усходам сонца! «Паэзія «Вечароў на хутары пабліз Дзіканькі» — гэта паэзія юная, свежая, пышная, раскошная, ап'яняючая, як пацалунак каханай!» «Дзяржавінская паэзія ў параўнанні з пушкінскай — гэта золак перадранішні... Пушкінская паэзія ў параўнанні з дзяржавінскай — гэта раскошны, поўны ззяння і бляску поўдзень летняга дня». А колькі паэзіі, пафасу, страсці, фантазіі, творчых знаходак у славутай характарыстыцы пушкінскага верша, асаблівасцей яго радка, у якіх крытык адчуў і антычную пластыку, і музыку марскіх хваль, і бляск маланкі, і ззянне крышталю, і хараство вясны, і ўдар меча, і ўсе багацці мелодый і гармоніі рускай мовы.

Крытычная спадчына Бялінскага—багацейшая скарбніца эстэтычных каштоўнасцей, лепшае з якой бярэ на ўзбраенне і эстэтыка сацыялістычнага рэалізму.

**В. БУРНОСАЎ.**

В. Р. Бялінскі сярод рускіх пісьменнікаў: М. Ю. Лермантава, В. А. Жукоўскага, І. А. Крылова, П. А. Вяземскага.

Малюнак **Б. Лебедзева.**

## КРЫЛАТАЕ СЛОВА

Пушкіна прыйшлося чытаць з маленства, Бялінскага пазней, у студэнцкія гады. Вершы Пушкіна, завучаныя ў школе, падабаліся, яны вабілі сваёй паэтычнасцю, шчырасцю, музыкай.

Але сапраўдная прыгажосць паэзіі Пушкіна адкрылася ўсё ж пасля Бялінскага. Ён прымусіў паглядзець на вялікага паэта зусім новымі вачыма, паказаў такое багацце яго творчасці, што можна ўсё тое, што адчуваў і ведаў раней, лічыць несур'ёзным.

І сёння ў творах Бялінскага вабіць перш за ўсё гэтае выключна дасканалае адчуванне мастацкасці, прыгажосці і — самае галоўнае— уменне даказаць, данесці да чытача гэтае адчуванне, «заразіць» яго сваім настроем, поглядам на твор, на пісьменніка. Бялінскі пераконвае, «пераводзіць у сваю веру». Усё ім напісанае сведчыць, што ў асобе гэтага першага вялікага рускага крытыка-трыбуна шчасліва спалучаецца магутны інтэлект з натхнёным паэтычным талентам. Слова Бялінскага гучыць узвышана, усхвалявана, яно поўнае страсці. Ён, мабыць, не ўмеў пісаць «акадэмічна», суха. Яго слова — крылатае, бо яно сагрэта непадробным пачуццём. Артыкулы Бялінскага можна чытаць, як паэму або як цікавую прозу.

Вучачыся ў Бялінскага, нам, пісьменнікам, трэба пераймаць менавіта гэтыя якасці — уменне спалучаць высокі грамадзянскі пафас з дасканалай мастацкай формай.

**Іван НАВУМЕНКА.**

## СКРОЗЬ ЧАС

Калі мы чуем — Бялінскі, побач паўстаюць імёны Пушкіна, Гогаля, Лермантава, Някрасава, Дастаеўскага. Цэлы перыяд у гісторыі рускай літаратуры — і які перыяд! — звязан з крытычным гарэннем «няўрымслівага Вісарыёна». Больш чым сто год назад крытык так «прачытаў» «Яўгенія Анегіна», «Героя нашага часу», «Рэвізора», што яго думкі, ацэнкі, эмоцыі як бы ўвайшлі ў самі творы, сталі часткай іх зместу. На многае, на вельмі многае глядзім мы і сёння вачыма Бялінскага.

Ёсць беларуская легенда пра тое, як дзве рэчкі — Нёман і Лоша — паспрачаліся, хто шпарчэй дабяжыць да мора. Кінулася Лоша туды, дзе ніжэй, дзе лягчэй прайсці, а Нёман пайшоў напрасткі і напралом. Лёгка беглася неглыбокай рэчцы Лошы, але нізінкі завялі яе проста ў балота. Цяжкі шлях выбраў сабе Нёман, нялёгка яму прыйшлося, але затое ён прабіўся да марскіх прастораў.

Праз стагоддзе прыйшоў да нас Бялінскі, бо ён жыў для вялікай мэты, заўсёды бачыў яе, напрасткі ішоў да яе.

Бялінскі першы самім жыццём сваім засведчыў, якая адказная, нялёгкая і высокая роля сапраўднай крытыкі, той, што кіруецца, жыве вялікімі грамадскімі мэтамі і страсцямі.

**Алесь АДАМОВІЧ.**

## СТАРОНКІ ЖЫЦЦЯ

Наш горад цяпер прыцягвае ўсеагульную ўвагу. Прыязджае многа экскурсантаў, якія цікавяцца старонкамі жыцця нашага вялікага земляка.

У 1938 годзе на радзіме Бялінскага ў г. Чэмбары (сваёй радзімай Вісарыён Рыгоравіч лічыў Чэмбар, а не Свеаборг) у доміку Бялінскіх быў адкрыты дзяржаўны музей В. Р. Бялінскага. У стагоддзе з дня смерці крытыка, у 1948 годзе, адкрыта другое аддзяленне музея ў былым павятовым вучылішчы, дзе Вісарыён Рыгоравіч вучыўся на працягу трох год. У музеі шмат рэчаў, якія належаць сям'і Бялінскіх, кнігі крытыка, дакументы, якія адлюстроўваюць жыццё і дзейнасць Вісарыёна Рыгоравіча. Экспазіцыя аб жыцці і дзейнасці вялікага крытыка размешчана ў былым павятовым вучылішчы, а ў доміку Бялінскіх захавана прыблізна жылая абстаноўка сям'і выдатнага рускага рэвалюцыянера-дэмакрата.

Здаўна ў былым Чэмбарскім павеце Пензенскай губерні жыла шматлікая сям'я Бялінскіх. Дзед крытыка Нікіфар Трыфанаў быў свяшчэннікам у сяле Бялыні Ніжне-Ломаўскага павета Пензенскай губерні. Царкоўнаслужыцелямі сталі два яго старэйшыя сыны. І малодшага, бацьку будучага крытыка, Нікіфар Трыфанаў таксама накіроўвае вучыцца ў Тамбоўскую духоўную семінарыю. Згодна з правіламі семінарыі, вучням давалі прозвішчы па назвах сёл і гарадоў, адкуль яны прыязджалі на вучобу, і Рыгор Нікіфаравіч атрымаў прозвішча Бялынскі.

11 чэрвеня 1811 года ў сям'і нарадзіўся сын, яму далі імя Вісарыён.

Паўтара гады жыла сям'я Бялынскіх у доме пляменніцы Рыгора Нікіфаравіча—Фядоссі Сцяпанаўны Івановай у горадзе Чэмбары. Сям'я Івановых была культурная, дэмакратычная, гасцінная, цікавілася літаратурай. Юны Вісарыён заўсёды знаходзіў у доме Івановых разумны і жаданы адпачынак.

У маі 1818 года на Базарнай плошчы горада Чэмбары лекарам Бялынскім быў пабудаваны драўляны дом, да якога прымыкаў невялікі фруктовы сад і агарод. На агародзе стаяла лазня. Яна служыла лазарэтам для хворых. У той час у горадзе бальніцы не было, і лекар Бялынскі праводзіў прыём дома.

Навучацца грамаце дзеці Бялынскіх пачалі ў мясцовай настаўніцы Е. Цыпроўскай, і толькі ў 1822 г., калі Вісарыёну споўнілася 11 год, у горадзе Чэмбары адкрылі павятовае вучылішча. У вучылішчы Бялінскі быў адным з лепшых вучняў.

У жніўні 1825 года Вісарыён Рыгоравіч паступае ў Пензенскую гімназію.

Гімназію Бялінскі не скончыў. Сухое выкладанне ў ёй не задавальняла Вісарыёна. Абыякавае стаўленне да вучобы яшчэ абвастрылася і тым, што з году ў год узмацняўся палітычны нагляд за гімназіяй, уводзіліся ўсё новыя і новыя строгасці.

У снежні 1828 года Бялінскі едзе на зімовыя вакацыі ў Чэмбар і больш у гімназію не вяртаецца. Увесь час, г. зн. рэшту зімы, вясну і лета, ён рыхтуецца да экзаменаў ва універсітэт.

У сярэдзіне жніўня 1829 года са сваяком Уладыкіным Бялінскі едзе ў Маскву. Экзамены ў Маскоўскі універсітэт ён здае паспяхова. Яго залічваюць на славесны факультэт.

Праз год Бялінскі прыязджае на летнія канікулы да бацькоў. У Чэмбары ён чытае пачатак сваёй драмы «Дзмітрый Калінін» стрыечнай пляменніцы Кацярыне Пятроўне Івановай. Вярнуўшыся ў Маскву, Бялінскі заканчвае свой першы твор. У пісьме ён піша: «У гэтым творы з усім запалам сэрца, якое гарыць любоўю да ісціны, з усім абурэннем душы, што ненавідзіць несправядлівасць, я ў карціне даволі жывой і праўдзівай паказаў тыранства людзей, якія прысвоілі сабе згубнае і несправядлівае права мучыць сабе падобных».

Драма была прызнана амаральнай і заганнай. Маладому аўтару пагражалі ссылкай у Сібір, аддачай у салдаты. Бялінскі такой развязкі не чакаў. Ён быў глыбока ўзрушаны і занепакоены. Здароўе яго было слабое, а пасля гэтага яшчэ пагоршылася. Ён пачаў часта хварэць, прапускаць заняткі. У верасні 1832 года Бялінскі быў выключаны з універсітэта. Гэта была расправа за яго «крамольную» драму, хоць выключэнне абгрунтавалі «недастатковай паспяховасцю» і нават... «абмежаванасцю здольнасцей».

Пасля выключэння з універсітэта матэрыяльнае становішча Бялінскага было надзвычай цяжкім. Ён перабіваўся выпадковымі заработкамі, жыў паўгалодны.

Але цяжкае становішча не зламала волю Бялінскага.

Вясною 1833 года Бялінскага запрашае супрацоўнічаць у сваіх выданнях рэдактар часопіса «Тэлескоп» і газеты «Молва» прафесар Надзеждзін. Спачатку Бялінскі пісаў невялікія бібліяграфічныя артыкулы і займаўся перакладамі. А ў 1834 годзе на старонках газеты «Молва» пачаў друкавацца першы буйны твор будучага крытыка «Літаратурныя мары». Гэты артыкул прынёс Бялінскаму шырокую вядомасць. З «Літаратурных мар» пачалася крытычная дзейнасць вялікага мысліцеля.

**Л. НІКІЦІНА,**
**навуковы супрацоўнік музея В. Р. Бялінскага.**

г. Бялінскі.

Павятовае вучылішча, дзе вучыўся В. Р. Бялінскі.

ПРАСТАТА ЁСЦЬ ПРЫГАЖОСЦЬ ІСЦІНЫ

ДЛЯ САПРАЎДНАГА МАСТАКА — ДЗЕ ЖЫЦЦЁ, ТАМ І ПАЭЗІЯ

**Для мастацтва няма больш высакароднага і высокага прадмета, як чалавек**

В. Р. БЯЛІНСКІ

## У БАРАЦЬБЕ ЗА РЭАЛІЗМ

30—40 гады XIX стагоддзя. Еўропа маўчыць пад пятою рэакцыі. Цяжкое ярмо прыгоннага права ўсё ніжэй прыгінае да зямлі рускага селяніна, нягледзячы на яго зацятае супраціўленне. Царскае самадзяржаўе старанна выконвае абавязкі расійскага і еўрапейскага жандара. Усё жывое, усё сумленнае, усё пратэстуючае падвяргаецца ганенням і знішчаецца. Усюды пануюць каты, якія прагным натоўпам стаяць ля трона. Яны заганяюць у заўчасную магілу Пушкіна і Лермантава, прымушаюць уцякаць за мяжу Герцэна, цкуюць Гогаля, збіваюць петрашэўцаў.

І ўсё ж рыцары бізуна і палкі не могуць задушыць вызваленчага руху. Еўропа ідзе да рэвалюцыі 1848—1849 гг. Расія, якая ўступае на шлях капіталістычнага развіцця, перажывае жорсткі крызіс, які пагражае самому існаванню самадзяржаўна-прыгонніцкага рэжыму. Сялянскія хваляванні нястрымна нарастаюць па ўсёй краіне.

У такіх гістарычных умовах жыве і стварае свае неўміручыя творы першы вялікі рускі рэвалюцыянер-дэмакрат, асветнік, філосаф, публіцыст і крытык Вісарыён Рыгоравіч Бялінскі. З яго пачынаецца эпоха змены дваранскага перыяду грамадскай думкі перыядам разначынскім.

Можна сабе ўявіць, як цяжка было змагацца Бялінскаму — гэтай, паводле выказвання Герцэна, «самай рэвалюцыйнай натуры мікалаеўскіх часоў». Толькі «прыгожае пісьменства» было той галіной, дзе яшчэ можна было, пераадольваючы рагаткі лютай цэнзуры, сёе-тое сказаць пра «гнюсную расійскую рэчаіснасць».

Ужо ў самым пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці Бялінскі ўсвядоміў, што асуджэнне расійскіх парадкаў і, у першую чаргу, прыгонніцтва павінна мець пад сабою цвёрдую тэарэтычную аснову. Ён быў не толькі «самай рэвалюцыйнай натурай», але і, па выказванню В. Ф. Адоеўскага, «адной з вышэйшых філасофскіх арганізацый». Бялінскі прайшоў складаны і супярэчлівы шлях тэарэтычных пошукаў, імкнучыся да выпрацоўкі правільнай рэвалюцыйнай тэорыі, якая паставіла б свядомую дзейнасць рэвалюцыянераў па пераўтварэнню Расіі на аб'ектыўную тэарэтычную глебу. Яго светапогляд сталеў і ўмацоўваўся, убіраючы ў сябе ўсе лепшыя дасягненні дамарксісцкай філасофскай і грамадскай думкі.

На літаратурна-крытычных работах Бялінскага 40-х гадоў можна прасачыць рашучы пераход вялікага крытыка ад ідэалізму да матэрыялізму, да правільнага тлумачэння дыялектыкі, рэвалюцыйнае значэнне якой ён зразумеў адразу ж пасля разрыву з абсалютнымі вывадамі філасофіі Гегеля, да рэвалюцыйнага адмаўлення самадзяржаўна-прыгонніцкага рэжыму.

Цэнтральнае месца ў эстэтычных і літаратурна-крытычных поглядах Бялінскага заўсёды, на ўсіх этапах развіцця яго светапогляду, займала пытанне аб адносінах мастацтва да рэчаіснасці. Ужо ў «Літаратурных марах» Бялінскі, разглядаючы ход развіцця рускай літаратуры з часу пятроўскіх пераўтварэнняў, выстаўляе агульнае азначэнне літаратуры, якое служыць у яго ў той жа час і крытэрыем яе ацэнкі. Паводле гэтага азначэння, літаратура, калі яна апраўдвае сваю назву, павінна адлюстроўваць дух таго народа, якому яна належыць. Народнае жыццё — вось рэчаіснасць мастацтва. І гэтая рэчаіснасць павінна знаходзіць **праўдзівае** адлюстраванне, **сапраўднае** ўвасабленне. Вось чаму ў наступным сваім крытычным артыкуле «Аб рускай аповесці і аповесцях Гогаля» Бялінскі з захапленнем вітае рэалізм вялікага пісьменніка. Спецыфічны характар аповесцей Гогаля, на думку Бялінскага, складаюць «прастата выдумкі, народнасць, дасканалая ісціна жыцця...», а «прычына ўсіх гэтых якасцей заключаецца ў адной крыніцы: п. Гогаль — паэт, паэт жыцця сапраўднага». Прызнаючы аповесці Гогаля ў найвышэйшай ступені народнымі, Бялінскі наступным чынам характарызуе паняцце народнасці: «Народнасць ёсць не вартасць, а неабходная ўмова сапраўды мастацкага твора, калі пад народнасцю трэба разумець праўдзівасць адлюстравання нораваў, звычаяў і характару таго ці іншага народа, той ці іншай краіны. Жыццё кожнага народа праяўляецца ў сваіх, яму аднаму ўласцівых, формах, значыць, калі адлюстраванне жыцця **правільнае, дык і народнае».**

Мы бачым, што ў самых ранніх сваіх артыкулах Бялінскі, нягледзячы на свой ідэалістычны светапогляд, не адгароджваецца ад рэчаіснасці, змагаючыся за праўдзівае і, значыць, **народнае** мастацтва. Праўда, развіццё самой рэчаіснасці, жыцця ён пакуль тлумачыць ідэалістычна, бачачы ў распаўсюджанні асветы асноўную крыніцу прагрэсіўнага грамадскага і, значыць, літаратурнага руху наперад. Але неўзабаве Бялінскі пераконваецца, што спадзяванне на асвету як сродак карэннага пераўтварэння рэчаіснасці не мае пад сабою рэальнай падставы. Высакароднае, але бяссільнае нездавальненне існуючым парадкам рэчаў, заснаванае на абстрактных, суб'ектыўных, утапічных прынцыпах, не задавальняла глыбокай філасофскай натуры Бялінскага.

Рэзка ён абвяргае і сваё часовае захапленне тэорыяй «разумнай рэчаіснасці», «прымірэння» з жыццём.

Бялінскі канчаткова пераходзіць на пазіцыі рэвалюцыйнага дэмакратызму і дыялектыкі, праўда, пакуль яшчэ ідэалістычнай, а ў сярэдзіне 40-х гадоў становіцца матэрыялістам. Гэты пераход зрабіў уплыў і на яго эстэтычныя і літаратурна-крытычныя погляды. Рэчаіснасць і мастацтва разглядаюцца з гэтага часу Бялінскім праз прызму рэвалюцыйнай дыялектыкі. Ужо ў артыкуле пра «Гора ад розуму» Грыбаедава Бялінскі ўсвядоміў, што не ўсякая рэчаіснасць разумная, што ёсць «прывідная» рэчаіснасць, якая заслугоўвае асуджэння з пункту гледжання разумнай свядомасці. Гэта думка яшчэ больш рэзка выказана ў яго артыкуле «Вершы М. Лермантава», дзе ён, абараняючы выкрывальную грамадзянскую лірыку Лермантава ад рэакцыйнай крытыкі і паказваючы жыццесцвярджальны характар **ідэі адмаўлення,** глыбока выказанай у яго паэзіі, абараняе мастацтва, якое палымяна адгукаецца на грамадскія пытанні свайго часу і ставіць перад грамадствам пэўныя ідэалы.

Актыўнае ўтаржэнне мастацтва ў жыццё з мэтай яго рэвалюцыйнага пераўтварэння — вось чаго патрабуе Бялінскі ад мастакоў і літаратараў. Аднак, адмаўленне «гнюснай» рэчаіснасці павінна грунтавацца на **рэальных,** а не **абстрактных,** утапічных ідэалах. Бялінскі ўсё больш выразна ўсведамляе, што мастацтва, як і грамадства, падпарадкавана закону гістарычнага развіцця. Яно цесна звязана з развіццём грамадскага жыцця. Без усведамлення гэтай ісціны немагчыма правільна растлумачыць гісторыю літаратуры як рускай, так і сусветнай. Прынцып гістарызму, якога цяпер прытрымліваецца Бялінскі, дае яму магчымасць глыбей і больш правільна, чым гэта было зроблена ім у «Літаратурных марах», асвятліць ход развіцця рускай літаратуры ад Ламаносава да Дастаеўскага і Ганчарова. Ён паказвае гістарычную правамернасць існавання ў Расіі XVIII ст. такіх літаратурных напрамкаў, як класіцызм і рамантызм, а таксама неабходнасць іх замены ў XIX ст. рэалістычным мастацтвам. Бялінскі дае разгорнутую гістарычную, эстэтычную характарыстыку трох асноўных прадстаўнікоў рэалізму ў рускай літаратуры яго часу — Пушкіна, Лермантава і Гогаля,— раскрывае цесную сувязь іх творчасці з ходам развіцця рускага жыцця, якое кожны з іх па-свойму адлюстраваў у мастацкіх творах. «Літаратура, — пісаў Бялінскі ў артыкуле «Агульнае значэнне слова літаратура», — ёсць адлюстраванне жыцця свайго народа... і гісторыя літаратуры шчыльна знітавана з гісторыяй народа».

Такога ж дыялектычнага пункту гледжання прытрымліваецца Бялінскі пры тлумачэнні гістарычнага развіцця сусветнай літаратуры, даючы глыбокія характарыстыкі такім пісьменнікам Захаду, як Шэкспір, Байран, Шылер, Гётэ, Вальтэр Скот, Купер, Дзікенс. Ён адмаўляецца ад некаторых выказаных ім у «прымірэнчы» перыяд памылковых поглядаў на французскую літаратуру і крытыку, і цяпер ужо высока ставіць ідэйны напрамак і грамадскую значнасць творчасці Вальтэра, Жорж Занд, Гейнэ, Грыбаедава, Адама Міцкевіча. Крытык змагаецца за ідэйнасць, праўдзівасць і народнасць мастацтва, паглыбляючы і абгрунтоўваючы сваю тэорыю рэалізму ўнясеннем у яе прынцыпаў дыялектыкі, матэрыялізму і рэвалюцыйнага дэмакратызму. Адбіраць у мастацтва права служыць грамадскім інтарэсам, сцвярджаў Бялінскі, значыць не ўзвышаць, а прыніжаць яго, таму што гэта значыць — пазбаўляць яго самой жывой сілы, рабіць яго прадметам нейкай сібарыцкай асалоды, забаўкаю пустых гультаёў; гэта значыць нават забіваць яго. Свабоду творчасці, па Бялінскаму, лёгка сумясціць са служэннем самым надзённым інтарэсам сучаснасці.

Эстэтычная тэорыя, якая паслядоўна распрацоўвалася Бялінскім з першых крокаў свайго літаратурнага жыцця, у 40-х гадах набывае закончаны выгляд, увабраўшы ў сябе яго дыялектычныя, матэрыялістычныя і рэвалюцыйна-дэмакратычныя ідэі. Яна служыла надзейнай зброяй Бялінскага ў яго барацьбе за перамогу і ўмацаванне рэалістычнага напрамку ў рускай літаратуры. Яе прынцыпы апладнілі эстэтыку і літаратурную крытыку вялікіх прадаўжальнікаў справы Бялінскага — Чэрнышэўскага і Дабралюбава, яны свядома ці не свядома выкарыстоўваліся ў творчасці вядомых пісьменнікаў і паэтаў — прыхільнікаў крытычнага рэалізму — на працягу ўсяго XIX стагоддзя, нарэшце, яны жывуць і развіваюцца ў лепшых творах сучаснай рэалістычнай літаратуры, эстэтыкі і крытыкі.

Літаратурная спадчына Бялінскага — залаты фонд сучаснага перадавога мастацтва.

**А. МУРНЕЎ.**

В. Р. Бялінскі за работай.

*З малюнка Б. Лебедзева.*

# ВЯСТУН БУДУЧЫНІ

Выдатны філосаф, крытык і публіцыст, Бялінскі ўнёс вялікі ўклад і ў развіццё гістарычнай навукі.

«Бялінскі, будучы найбольш значным з усіх нашых крытыкаў, быў і адным з найбольш значных нашых вучоных», — гаварыў М. Г. Чарнышэўскі.

Прайшоўшы складаную філасофскую эвалюцыю ад ідэалізму да матэрыялізму, Бялінскі выказваў геніяльныя здагадкі аб рашаючай ролі вытворчасці і матэрыяльных патрэб людзей у грамадскім развіцці, хоць увогуле ў разуменні чалавечай гісторыі ён заставаўся ідэалістам.

Рэвалюцыйна - дэмакратычны светапогляд, непахіснае перакананне, што рашаючай сілай гістарычнага працэсу з'яўляюцца працоўныя масы, што чалавецтва ў сваім паступальным развіцці не ведае межаў, што рэвалюцыйнае насілле немінуча пры пераходзе чалавечага грамадства ад аднаго стану да другога, што буржуазны лад, які ўсталяваўся да таго часу ў Заходняй Еўропе, ёсць толькі прамежкавы этап на шляху да лепшай будучыні, — усё гэта робіць гістарычныя погляды Бялінскага адной з вяршынь дамарксісцкай гісторыяграфіі.

Ф. Энгельс у пісьме да рускай эмігранткі Е. Папрыц у 1884 г., маючы на ўвазе рэвалюцыянераў-дэмакратаў, выключна высока адгукаўся «аб гістарычнай і крытычнай школе ў рускай літаратуры, якая стаіць бясконца вышэй за ўсё тое, што створана ў Германіі і Францыі афіцыйнай гістарычнай навукай».

В. Р. Бялінскі рашуча адвяргаў скептычныя сумненні ў магчымасці гісторыі як навукі. Паколькі ён разглядаў гісторыю грамадства як заканамерны паступальны працэс, пастолькі прадметам гістарычнай навукі, на яго думку, павінны стаць законы грамадскага развіцця.

Такое разуменне прадмета гістарычнай навукі ўзвышае нашага вялікага мысліцеля не толькі над дваранскай гісторыяграфіяй Расіі XIX ст., але і над сучаснымі буржуазнымі гісторыкамі, якія свядома адмаўляюць заканамерны характар гістарычных падзей, глыбокую абумоўленасць пераможнага шэсця сіл сацыялізма і міру.

Крытыкуючы сучасную яму дваранска-буржуазную гісторыяграфію за тое, што яна не поўна адлюстроўвала гістарычны працэс, абмяжоўвалася апісаннем палітычнай гісторыі, Бялінскі патрабаваў, каб зместам гістарычнай навукі сталі рамёствы, навукі, мастацтва, звычаі і г. д. — усё жыццё народа ва ўсёй яго разнастайнасці. А палітычная гісторыя «павінна быць толькі рамаю гісторыі».

Бялінскі пакінуў шматлікія заўвагі па пытаннях усеагульнай гісторыі, якія маюць прынцыповае значэнне і ў нашы дні.

Разглядаючы гісторыю чалавечага грамадства як адзіны заканамерны працэс, ён рашуча выступаў супраць паклёпніцкіх вымыслаў каланіялістаў XIX ст. аб «негістарычнасці» і «непаўнацэннасці» народаў Азіі і Афрыкі. Указваючы на багатае гістарычнае мінулае Кітая, Індыі і іншых азіяцкіх народаў, Бялінскі горача верыў, што яны ў будучым знойдуць дарогу да хуткага развіцця. «Кітай і Індыя — краіны ў вышэйшай ступені гістарычныя»,— упэўнена сцвярджаў ён.

Выкрыццё Бялінскім еўропацэнтрызму ў гістарычнай навуцы ў нашы дні пацвярджаецца вялікімі гістарычнымі зменамі ў Азіі і Афрыцы, выхадам на арэну актыўнага міжнароднага жыцця такіх дзяржаў, як Кітай, Індыя, Інданезія, дзесяткаў маладых афрыканскіх дзяржаў, якія дамагліся палітычнай незалежнасці.

Вялікі крытык даў правільныя характарыстыкі многім перыядам і асобным падзеям еўрапейскай гісторыі. Ён больш правільна, чым французскія асветнікі-энцыклапедысты, ацаніў эпоху сярэдніх вякоў. Пагаджаючыся з Вальтэрам, што гэты перыяд характарызуецца разгулам рэлігійнага фанатызму, падаўленнем чалавечай асобы, дэспатызмам, Бялінскі, між тым, адмаўляўся бачыць у сярэдніх вяках «правал» чалавечай гісторыі. Верны дыялектыцы, ён указваў, што ў сярэднія вякі адкрыццё пораху, кнігадрукавання, вялікія геаграфічныя адкрыцці і г. д. падрыхтавалі прамысловы і культурны ўздым новага часу.

Такая ацэнка гэтага перыяду чалавечай гісторыі блізкая да ацэнкі, дадзенай Марксам і Энгельсам.

Глыбока цікавячыся гісторыяй буржуазных рэвалюцый на Захадзе, Бялінскі адзначаў іх заканамерны характар, добра ведаў гісторыю французскай буржуазнай рэвалюцыі 1789 г. Ён з захапленнем адгукаўся пра якабінскую дыктатуру, справядліва бачачы ў ёй рэвалюцыйныя дзеянні саміх працоўных мас. У пісьме да В. П. Боткіна ён прызнаваўся, што сам гарыць «маратаўскай любоўю да чалавецтва».

Адлюстроўваючы інтарэсы працоўных, Бялінскі бачыў, што буржуазныя рэвалюцыі рабіліся рукамі народа, але плёнам рэвалюцыйных перамог карысталіся эксплуатататары; народ жа трапляў зноў у ярмо эксплуатацыі і прыгнёту. У рэцэнзіі на раман Э. Сю «Парыжскія тайны» Бялінскі выкрывае эгаістычную сутнасць французскай буржуазіі, якая выкарыстала плён рэвалюцыі 1830 года, пакінуўшы народ у ранейшым прыгнечаным стане.

Бялінскі прызнаваў заканамернасць і прагрэсіўнасць буржуазнага ладу, які змяніў эпоху феадалізму. Але ён рэзка крытыкаваў буржуазных лібералаў Боткіна, Аненкава і іншых за апалогію і ўсхваленне гэтага ладу; яны лічылі, што Расіі няма да чаго больш імкнуцца, апроч як да хутчэйшага «пераймання» парадкаў і інстытутаў буржуазнай Еўропы. Рэвалюцыянер і дэмакрат, Бялінскі не мог пагадзіцца, што гэты грамадскі лад — вяршыня грамадскага прагрэсу. Ён даў бліскучую крытыку капіталізму, выкрыў антычалавечую сутнасць уласніка-буржуя і яго двудушнай маралі.

Вялікую ўвагу Бялінскі аддаваў пытанням рускай гісторыі. Вывучэнне гісторыі Расіі і распрацоўка яе важнейшых праблем, як, між іншым, і ўсеагульнай гісторыі, падпарадкоўваліся ў вялікага рускага патрыёта задачам барацьбы рэвалюцыйнай дэмакратыі за вызваленне рускага народа ад прыгнёту самаўладства і прыгонніцтва.

Ён выкрываў негрунтоўнасць і антынавуковасць канцэпцыі «самабытнасці» рускага гістарычнага працэсу, якая была выстаўлена ідэолагам афіцыйнай народнасці Пагодзіным і якую падтрымлівалі славянафілы. Згодна з гэтай ілжывай «тэорыяй», самабытнасць Расіі ў тым, што быццам бы дзяржава тут, у адрозненне ад Захаду, узнікла мірна, шляхам прызвання ўлады народам, што народ адзіны з уладаю, што абшчынны характар жыцця вызначае мір і згоду ў дзяржаве, што таму ў Расіі не можа быць класавай барацьбы і рэвалюцый. У дадатак да гэтага яны сцвярджалі, нібы ўласцівыя рускаму народу пакорлівасць і рэлігійнасць гарантуюць спакой і мір на Русі. З гэтых пазіцый імі асуджаліся рэформы Пятра І, якія паскорылі развіццё краіны і пакончылі з многімі з'явамі старадаўнасці.

Бялінскі добра ўсведамляў, што гэтыя гістарычныя аргументы служаць абароне самаўладства і прыгонніцтва. Ён паказаў, што абшчынны характар жыцця не складае «самабытнасці» Расіі, што ён быў «... ва ўсіх плямён і народаў у патрыярхальным стане».

Факты гісторыі, працягваў далей Бялінскі, сведчаць, што і ў Расіі ішла ўпартая класавая барацьба, барацьба саслоўяў, як і на Захадзе.

У процілегласць абаронцам прыгонніцкай манархіі, Бялінскі гаварыў, што рускі народ у барацьбе за сваю незалежнасць супраць татара-мангольскага ярма, польска-шведскіх інтэрвентаў у 1612 г., супраць нашэсця Напалеона ў 1812 г. праявіў не пакорлівасць, а свабодалюбства і непрымірымасць да прыгнёту і заняволення.

Гэтак жа палымяна вялікі крытык выкрывае уяўную рэлігійнасць рускага народа.

«... Гэта па натуры сваёй глыбока атэістычны народ. У ім яшчэ шмат забабонаў, але няма і следу рэлігійнасці... Забабоны праходзяць з поспехамі цывілізацыі. Рускі народ не такі; містычная экзальтацыя не ў яго натуры; у яго вельмі многа для гэтага разважнасці, яснасці і станоўчасці ў розуме; і вось у гэтым іменна, магчыма, і заключаецца веліч гістарычнага лёсу яго ў будучым».

Выкрываючы тэорыі абаронцаў самаўладства і прыгонніцтва аб «самабытнасці» развіцця Расіі, Бялінскі адначасова прызнаваў своеасаблівасць рускай гісторыі і рускага народа, якая вынікае з прыродных і гістарычных асаблівасцей краіны, звычаяў народа. Ён высока цаніў гэтую своеасаблівасць, ганарыўся ёю; ён крытыкаваў так званую «скептычную» школу у рускай гісторыяграфіі (М. Г. Качаноўскі) за яе нігілістычнае стаўленне да мінулага Расіі.

Палымяны патрыёт Радзімы даў сваю распрацоўку і рэвалюцыйна-дэмакратычную ацэнку амаль усім асноўным праблемам рускай гісторыі.

Працягваючы патрыятычную традыцыю Ламаносава, Радзішчава і дзекабрыстаў, Бялінскі адвяргаў нарманскую тэорыю паходжання рускай дзяржавы.

Бялінскі высока ацэньваў ролю пятроўскіх рэформ, лічачы іх неабходнымі для пераадолення адсталасці Расіі. Пры гэтым ён іншы раз дапускаў перавелічэнне ролі самога Пятра І, выяўляючы тут гістарычную абмежаванасць у ацэнцы класавага памешчыцка-дваранскага характару яго дзейнасці.

Праяўляючы выключную ўвагу да такіх крытычных перыядаў гісторыі нашай краіны, як інтэрвенцыя шведаў і палякаў у 1612 г. і нашэсце Напалеона ў 1812 г., Бялінскі падкрэсліваў, што ў абодвух выпадках выратаванне Радзімы было справай рук самога народа, і бачыў у гэтым доказ яго найвялікшай творчай сілы, залог яго будучыні.

Перадавыя погляды і ідэі Бялінскага аказалі плённы ўплыў на наступнае развіццё рэвалюцыйна-дэмакратычнай думкі ў Расіі. Яны леглі ў аснову гістарычных поглядаў яго вялікіх пераемнікаў Чарнышэўскага і Дабралюбава. Ідэйная спадчына Бялінскага і сёння служыць справе прагрэсу, міру і сацыялізма.

*Дом Бялінскіх.*

**І. РАБКОЎ.**

# НАШ ВЯЛІКІ ДРУГ

Публіцыстычная і літаратурна-крытычная дзейнасць В. Бялінскага аказала велізарнейшы ўплыў на развіццё беларускай літаратуры.

Беларускі чытач заўсёды праяўляў вялікую цікавасць да твораў В. Бялінскага. Аб папулярнасці твораў В. Бялінскага да рэвалюцыі сведчыць той факт, што кнігі крытыка значацца ў многіх каталогах дарэвалюцыйных бібліятэк Беларусі. Так, напрыклад, у выданні «Каталог Минской городской библиотеки им. А. С. Пушкина» (Мінск, 1909) зарэгістраваны чатырохтомнае і двухтомнае выданні твораў В. Бялінскага, у кнізе «Каталог Гомельской городской библиотеки-читальни имени Н. В. Гоголя» (Гомель, 1916) — чатырохтомнае выданне, у «Каталоге книг Могилевской публичной библиотеки» (Магілёў, 1902) — 10 экземпляраў розных выданняў твораў вялікага крытыка, у «Каталоге Минской библиотеки Московско-Брестской ж. д.» (Мінск, 1911) — пяцітомнае выданне твораў і г. д.

Цяпер у фондах Дзяржаўнай бібліятэкі імя Ул. І. Леніна налічваецца каля 130 розных выданняў твораў В. Бялінскага толькі ў арыгінале. А колькі яго кніг перакладзена на мовы народаў СССР!

На беларускай мове ўпершыню надрукаваны не артыкул, а апавяданне В. Бялінскага «Дзве дарогі» ў перакладзе М. Арла («Наша ніва», 1912, № 17). У 1939 годзе на беларускай мове былі выдадзены «Літаратурна-крытычныя артыкулы» В. Бялінскага (Мінск, ДВБ) і ў 1949 г. — «Выбраныя творы» (Мінск, ДВБ). У іх увайшлі найбольш папулярныя артыкулы крытыка. Акрамя гэтага, Дзяржаўнае выдавецтва двойчы выдавала творы В. Бялінскага на рускай мове.

У 1936 г. адзначалася 125 год з дня нараджэння вялікага крытыка. Рэспубліканская газета «Рабочий» за 12 чэрвеня 1936 г. змясціла некалькі водгукаў навуковых работнікаў і моладзі аб творчасці В. Бялінскага.

У тым жа нумары газеты, пад рубрыкай «За што мы любім і цэнім Вісарыёна Рыгоравіча Бялінскага», змешчана цікавая заметка студэнта Беларускага дзяржаўнага універсітэта П. Бойкіна. «З вялікай і захапляючай цікавасцю,— пісаў студэнт,— я чытаў творы В. Р. Бялінскага. Гэта тлумачыцца тым, што ён пісаў проста, зразумела, вельмі захапляюча і па-мастацку востра ставіў у сваіх артыкулах пытанні аб сучасных яму літаратурных з'явах».

Творчасці В. Бялінскага прысвечан рад работ беларускіх крытыкаў і даследчыкаў. У 1936 годзе была выдадзена кніга аб філасофскіх, эстэтычных і крытычных поглядах В. Бялінскага (**Карабан С. І.** «В. Г. Белинский». Мінск, АН БССР, 1936), у 1959 годзе — кніга **В. І. Сцяпанава** «Философские и социологические воззрения В. Г. Белинского» (Мінск, Выдавецтва БДУ, 1959).

У перыядычным друку змяшчаліся артыкулы М. Дабрыніна, А. Есакова, М. Клімковіча, Ю. Пшыркова, І. Родзіна, В. Саўсуна і інш.

Цікавы артыкул «Бялінскі і мінулае беларускай культуры» апублікаваў у часопісе «Беларусь» (1954, № 8) **І. Бас.** Аўтар артыкула расказвае аб бясспрэчным уплыве ідэй В. Бялінскага на аўтара ананімнай беларускай паэмы сярэдзіны XIX стагоддзя «Тарас на Парнасе». У гэтым жа артыкуле І. Бас выказвае меркаванне аб тым, што В. Бялінскі, калі не быў аўтарам, дык даў згоду на надрукаванне ў газеце «Молва» заметкі «Белорусская песня», у якой бярэцца пад абарону беларуская мова. «Сапраўдная беларуская мова, як можна бачыць з гэтай песні, зусім не польская. Таксама яе нельга назваць і рускай, як называе яе Грэч у сваім «Вопыце». У артыкуле цытуецца таксама цікавае пісьмо В. Бялінскага, у якім ён паведамляе сваім бацькам аб тым, што спрабуе атрымаць пасаду настаўніка на Беларусі (пісьмо напісана неўзабаве пасля выключэння яго з універсітэта).

Але дагэтуль у рэспубліканскім друку не змяшчалася яшчэ грунтоўных прац аб уплыве літаратурна-крытычнай спадчыны В. Бялінскага на развіццё беларускай літаратуры і крытыкі. Было б вельмі цікава прасачыць, як асноўныя прынцыпы літаратурнай крытыкі, распрацаваныя Бялінскім, яго традыцыі развіваліся ў беларускай крытыцы, пачынаючы з прац Максіма Багдановіча і канчаючы нашымі днямі. Гэта ўдзячная тэма для самастойнага даследавання.

**Н. САУЧАНКА.**

## Падзеі Факты Навіны

### ВЫСТАЎКА ТВОРАЎ БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ

У Брэсцкім Доме тэхнікі адкрыта перасоўная выстаўка твораў беларускіх мастакоў. На ёй прадстаўлены многія жанры выяўленчага мастацтва. Тут бытавая карціна, пейзаж, гісторыка-рэвалюцыйная тэма, партрэт нашага сучасніка, нацюрморт. Сярод іх работы мастакоў Данцыга, Стасевіча, Кухарава, Жолтак і іншых.

**С. СУПРУН.**

### ДЗВЕ ПРЭМ'ЕРЫ ў Народным тэатры

**Два новыя спектаклі падрыхтаваў Народны тэатр Магілёўскага Дома культуры чыгуначнікаў. У першым з іх па п'есе В. Лаўрэнцьева «Дзеля сваіх блізкіх» апавядаецца пра самаадданую барацьбу працаўнікоў вёскі за стварэнне багацця сельскагаспадарчых прадуктаў у нашай краіне. Пастаўлены спектакль рэжысёрам Ул. Бараноўскім, мастацкае афармленне М. Клімава.**

**Спектакль па п'есе А. Хмелькіна «Мой сябар Міколка» — падарунак дзецям у час летніх школьных канікул. Ён апавядае пра дружбу, таварыства. Пастаноўка гэтага спектакля ажыццёўлена рэжысёрам Л. Кавалеўскай.**

### Канцэрты для пуцейцаў

**Славіцца сваёй мастацкай самадзейнасцю Палац культуры гомельскіх чыгуначнікаў імя Ул. І. Леніна. Тут плённа працуюць харавы, драматычны і харэаграфічны калектывы, шматлікія гурткі. Самадзейных артыстаў-чыгуначнікаў часта можна сустрэць на лінейных станцыях і паўстанках Беларускай магістралі, у рабочых клубах Гомеля, у калгасах і саўгасах вобласці, дзе яны выступаюць з канцэртамі.**

**Зараз аматары самадзейнасці абслугоўваюць пуцейцаў. Днямі яны выязджалі на станцыю Васілевічы і наладзілі вялікі канцэрт. Удзельнікі драматычнага калектыву Каліноўская, Фрадкін, Гера і Цырульнікаў паказалі пуцейцам вадэвіль «15 мінут» Альшанскага. Выступіў і аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Карнілава. Парадавалі пуцейцаў сваім майстэрствам акрабаты-эксцэнтрыкі Е. Нікіфар і М. Брук, чытальнік Г. Пікоўскі і іншыя выканаўцы.**

**Цёпла сустрэлі пуцейцы выступленне ўдзельнікаў Народнага ансамбля песні і танца.**

**Зараз удзельнікі мастацкай самадзейнасці Палаца культуры імя Ул. І. Леніна рыхтуюцца да выезду на іншыя станцыі Беларускай чыгункі.**

### КОРАТКА

● Гомель наведаў Гуцульскі ансамбль песні і танца. Артысты пазнаёмілі працоўных горада з гуцульскімі народнымі песнямі і танцамі, а таксама з песнямі і танцамі народаў СССР і краін народнай дэмакратыі.

● У Мінску адбыўся сход архітэктараў сталіцы. Ён быў скліканы Саюзам архітэктараў БССР і архітэктурна-будаўнічай секцыяй Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

З дакладам «Вынікі трэцяга Усесаюзнага з'езда савецкіх архітэктараў і задачы горадабудаўнікоў Беларусі» выступіў старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах будаўніцтва і архітэктуры В. Кароль.

● Спектаклем «Іркуцкая гісторыя» па п'есе А. Арбузава пачаў у Магілёве гастролі Рыбінскі драматычны тэатр.

Магілёўчанам таксама будуць паказаны спектаклі «Дыплом на званне чалавека» А. Шур, «Уцёкі з начы» бр. Тур, «Усімі забыты» Назыма Хікмета.

● Салігорск наведалі артысты Луганскай філармоніі. Яны выступілі з вялікай і разнастайнай канцэртнай праграмай. Салігорцы з цікавасцю праслухалі песні ўкраінскіх і рускіх кампазітараў, праглядзелі выступленні майстроў розных жанраў.

### *Свята кнігі ў Гомелі*

На гэты раз плошча імя Леніна ў Гомелі была аддадзена ў распараджэнне кнігалюбаў і работнікаў кнігарань. Гаспадары кніжных багаццяў расставілі тут дзесяткі столікаў з мастацкай, палітычнай, тэхнічнай, навукова-папулярнай, медыцынскай літаратурай. На свята кнігі прыехалі работнікі 14 кнігарань, размешчаных у розных раёнах вобласці. Столікі з літаратурай выставілі кнігарні Гомеля і гарадскі аддзел «Саюздруку». Многія гамяльчане папоўнілі ў гэты дзень асабістыя бібліятэчкі лепшымі творамі савецкай літаратуры. Значным поспехам сярод кнігалюбаў карысталіся і творы беларускіх пісьменнікаў І. Шамякіна, Я. Скрыгана, Т. Хадкевіча, В. Віткі, А. Кулакоўскага, П. Кавалёва, П. Броўкі, Р. Сабаленкі і інш.

**В. СЯМЁНАЎ.**

**На здымку:** кніжны базар у Гомелі.

Фота **В. Страчанкова.**

## ТЭАТР

# ДРОНАЎ І ЯГО СЯБРЫ

Інтэлектуальны паядынак паміж акадэмікам Фёдарам Аляксеевічам Дронавым (артыст Н. Радзіёнаў) і свяшчэннікам Серафімам (артыст М. Бярозкін) з'яўляецца своеасаблівай кульмінацыяй прынцыповых спрэчак, якія разгортваюцца ў спектаклі нашых магілёўскіх гасцей «Усё застаецца людзям» (аўтар С. Алешын, рэжысёр Б. Лур'е, мастак М. Волахаў).

Розум і спрыт свяшчэнніка, яго хітрая маскіроўка пад добразычлівага сябра людзей не вытрымліваюць жалезнай логікі доказаў Дронава аб заганнасці светапогляду і дзейнасці свяшчэнніка.

У спектаклі вельмі трапна і дасціпна падкрэслена, што, фізічна здаровы, свяшчэннік па сутнасці ўжо «жывы труп», а безнадзейна хворы, асуджаны на фізічную смерць савецкі вучоны поўны душэўнага здароўя. У канфлікце ідэй перамагаюць тыя, што грунтуюцца на трывалых законах гісторыі грамадскага развіцця, на марксісцка-ленінскім светапоглядзе.

Хвароба няўмольна і паслядоўна разбурае арганізм Фёдара Дронава, надрывае яго сілы. Але дух вучонага, яго творчы гарт усё больш мацнеюць і імкненне да новых адкрыццяў павялічваецца. Пакуты дадалі зморшчынак на твары вучонага, але ярка свецяцца гарэзлівыя агеньчыкі ў вачах сівога акадэміка. Запал творчасці саграе яго немаладое сэрца.

Няўрымслівы Дронаў Н. Радзіёнава. Ён па-юнацку рухавы, дасціпны, жвавы. Артыст стварае шматгранны характар. Гэта выдатны вучоны і «чалавек для людзей», якому ўласцівы гнеў і душэўная мяккасць, суровая прынцыповасць у абароне навуковых пазіцый і незвычайная пяшчотнасць, лірычнасць у адносінах з блізкімі людзьмі.

«Канфлікт» хворага цела і здаровага духу тоіць небяспеку ператварыць вучонага-наватара ў пакутніка. Аўтары спектакля пазбеглі гэтага. «Зерне» вобраза ў іншым. Перад намі захоплены высакароднай ідэяй вучоны, галоўная мэта якога—адкрыць людзям акно ў будучыню, у неабсяжныя прасторы космасу.

Герой Н. Радзіёнава — чалавек высокаінтэлектуальны, надзвычай інтэлігентны, ва ўнутраным і вонкавым абліччы яго выразна прыкметны адзнакі яркай творчай індывідуальнасці. Ён заўсёды адухоўлены, акрылены сваімі ідэаламі. І разам з тым Дронаў просты, працавіты чалавек з цвёрдай воляй і непахіснай упэўненасцю ў вернасці абранага ім шляху ў навуцы і ў жыцці.

І, мабыць, галоўнай вызначальнай рысай героя Радзіёнава з'яўляецца тое, што ён заўсёды знаходзіцца ў стане глыбокага роздуму, нават тады, калі здаецца, што акадэмік адпачывае ад разумовай працы і выключаны са звычайнага жыццёвага рытму.

Такі сцэнічны характар, як Дронаў, нельга стварыць без сапраўднага творчага натхнення, высокага прафесіяналізму артыста, выкарыстання ўсіх элементаў сцэнічнай выразнасці. Н. Радзіёнаў паказаў сябе майстрам псіхалагічна складанага вобраза, у якім душэўная глыбіня з'яднана з дакладным пластычным малюнкам, арганічнымі герою жэстамі, мімікай і галасавымі інтанацыямі.

І ўсё ж нельга сцвярджаць, што сцэнічны партрэт Дронава зусім бездакорны і закончаны. Хацелася б большай унутранай свабоды акцёра, меншай залежнасці яго ад вонкавага малюнка вобраза, яшчэ большай чалавечай прастаты ў час яго сустрэч з вучнямі і навуковымі супрацоўнікамі даследчага інстытута.

Фёдар Дронаў — цэнтральная фігура п'есы і спектакля. Усе падзеі і канфлікты так ці інакш пераплятаюцца з яго жыццём і творчай дзейнасцю. Сябры Дронава—у адным выпадку яго калегі па здзяйсненню навуковых адкрыццяў і выхаванцы, а ў другім — людзі, якія з выключнай шчырасцю і самаадданасцю ахоўваюць здароўе хворага акадэміка.

**На здымку:** сцэна са спектакля «Усё застаецца людзям» у пастаноўцы Магілёўскага драматычнага тэатра. У ролях: Дронава—артыст **Н. Радзіёнаў,** Вязьміна—артыст **А. Рудакоў.**

Па-рознаму праяўляюцца характары найбольш блізкіх да Дронава навуковых супрацоўнікаў — Вязьміна (артыст А. Рудакоў) і Румянцавай (артыстка З. Малчанава). Вязьмін — малады вучоны, які асабліва тонка і нават пяшчотна ўспрымае цёплыя і чалавечныя клопаты свайго выдатнага настаўніка. Светлая душа ў Вязьміна, якая часам надта чула і нервова рэагуе на добрае і дрэннае ў людзях. Бясконца і самаадна ўлюбёны ў Дронава і «на ўсё жыццё» закаханы ў Румянцаву, Вязьмін А. Рудакова не вытрымлівае суровых выпрабаванняў жыцця, глыбокіх душэўных пакут, якія зваліліся на яго. Хочацца параіць таленавітаму артысту менш акцэнтаваць у вобразе партрэтныя рысы дзівакаватага, не «от мира сего» маладога чалавека, якога апанавалі рамантычныя ілюзіі.

Больш жыццядзейная натура Румянцавай (артыстка З. Малчанава). Яна, аднак, не мінае памылак і пэўных хістанняў на шляху да спазнання праўды аб людзях, з якімі ёй даводзіцца сустракацца. Артыстка падкрэслівае складаныя драматычныя перажыванні гераіні, неспакойнае сэрца якой зведала не толькі радасці, але і расчараванні ў жыцці.

Сардэчны і чулы акадэмік Маргуноў (артыст С. Бульчык). На твары вучонага ніколі не знікае добразычлівая ўсмешка, ніколі не пакідае яго шчодры і цёплы гумар.

Сярод сяброў Дронава — блізкія да яго — урач Ася Давыдаўна (артыстка Ю. Гальперына) і сакратар Тамара Іванаўна (артыстка Е. Сакурава). Гэта вобразы не асноўныя, а службовыя ў п'есе. Але, дзякуючы ўдумліваму выкананню артыстак, яны арганічна ўваходзяць у мастацкі ансамбль спектакля.

Да педантычнасці строгая Тамара Іванаўна і заўсёды насцярожана чулая Ася Давыдаўна — псіхалагічныя рысы, якія адрозніваюць сцэнічныя партрэты гераінь.

Вельмі рухавая і эмацыянальная, простая і шчырая маладая артыстка І. Дашкоўская ў эпізадычнай ролі дамработніцы Зіны. Яна нічога не «іграе», яна жыве ў вобразе свабодна, паўнакроўным «жыццём чалавечага духу» (К. Станіслаўскі). І таму мізансцэны для Дашкоўскай настолькі арганічныя, быццам яны створаны не ўяўленнем рэжысёра, а ўзніклі натуральна ў свядомасці самой артысткі ў працэсе яе актыўнага сцэнічнага жыцця. Вельмі хацелася б здольную маладую дэбютантку ўбачыць у больш значнай ролі.

Ідэйны праціўнік Дронава свяшчэннік Серафім (у дасціпным выкананні артыста М. Бярозкіна) ясна выкладае перад Дронавым сваю жыццёвую пазіцыю. Вострае і дасціпнае выкрыццё яе гібнасці — душэўная неабходнасць для Дронава. М. Бярозкін не шукае лёгкай творчай задачы. Ён не захапляецца гратэскам, якім часта малююцца недарэчных служак бога.

Стрыманыя рухі і жэсты, выразная міміка і мяккія інтанацыі трапна выкарыстаны артыстам у сцэнічным вобразе «ваўка ў авечай скуры»—Серафіма-цемрашала, які замаскаваўся дэмагагічнай фразеалогіяй чалавекалюбства.

Пазбягае схематычнага, прасталінейнага паказу свайго героя і артыст С. Каленскі ў ролі Марозава, вучня акадэміка, які паступова страчвае сваё сумленне і ператвараецца ў перашкоду на шляху здзяйснення задум вучонага.

Гаворачы пра рэжысёрскае вырашэнне спектакля, варта адзначыць адпаведнасць пастаноўшчыка Б. Лур'е ідэям і вобразам драмы, плённыя спробы стварыць трывалы сцэнічны ансамбль са своеасаблівых акцёрскіх індывідуальнасцей, умельства знайсці мастацкі кантакт з акцёрамі — выканаўцамі асноўных роляў. Добра, што рэжысёр шукае прыгоду сцэнічнага характару ў раскрыцці роздуму героя над мэтай і сэнсам жыцця, у псіхалагічных матывах яго дзеянняў і паводзін.

Раней нам здаралася бачыць у магілёўчан, побач з сапраўды мастацкімі творамі, спектаклі з рысамі абыякавасці і рамесніцтва. «Усё застаецца людзям», — спектакль і па зместу і па сцэнічнай форме — сапраўды творчы. Гэта радуе. Хочацца пажадаць тэатру смялей, больш упэўнена крочыць у гэтым напрамку, настойліва дамагацца індывідуальнага почырку, уласнага голасу ў хоры драматычных тэатраў рэспублікі. Здзейсніць гэтую мэту могуць дапамагчы беларускія драматургі.

**М. МОДЭЛЬ.**

Днямі спектаклем «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна пачаў свае гастролі ў Мінску Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр імя Якуба Коласа. У спектаклях заняты артысты: А. Ільінскі, Ф. Шмакаў, Я. Яленская, Г. Маркіна, А. Шэлег, Е. Лагоўская, З. Канапелька, Г. Гарбук, Л. Куцькіна і інш.

Рэжысёр спектакля Б. Браганцаў, мастак Я. Нікалаеў, кампазітар І. Любан.

**На здымку** вы бачыце сцэну са спектакля «Выгнанне блудніцы». У ролях: Гаворкі—артыст **Ф. Шмакаў,** Галі—артыстка **Я. Яленская,** Яснікава — артыст **Г. Гарбук.**

# А жаданне і не збылося

Выбіраючы для пастаноўкі камедыю чэшскага драматурга Браціслава Блажака «Трэцяе жаданне», калектыў Тэатра імя Я. Купалы ўскладаў на яе шмат надзей. Рэжысёр імкнуўся яркімі сцэнічнымі сродкамі вырашыць вострую праблему сучаснасці, а акцёры мелі намер стварыць цікавыя вобразы. Але самым асноўным і прагным жаданнем усяго калектыву было стварыць яркі і цікавы спектакль, варты самай прыхільнай увагі гледача.

Разумная і змястоўная камедыя Блажака мовай дзіцячай казкі апавядае аб незвычайным у самым звычайным жыцці. З усмешкай на вуснах аўтар забяспечвае свайго героя ўсім, чаго ён жадае — даволі толькі пазваніць у «чароўны званочак».

В. Броўкін правільна зразумеў і выявіў галоўную думку твора, што толькі праца дае чалавеку шчасце.

Ідэйны і выхаваўчы змест спектакля зусім ясны. Камедыя «Трэцяе жаданне» цікавая для тэатра не толькі актуальнай тэмай, але і тым, што дае багаты матэрыял для рэжысёрскай фантазіі і акцёрскай творчасці. У ёй ёсць і сцэнічныя цяжкасці, бо ўвесь час аўтар балансуе на грані казкі і рэчаіснасці, гумару і сур'ёзу. Патрэбна вельмі дакладная рэжысёрская задума, каб не сыйсці з гэтай грані і па-майстэрску перадаць усе нюансы драматычнага твора.

Але спектакль у купалаўцаў у пэўнай ступені страціў лёгкасць, бо рэальнасць увесь час перавашжае над казкай, гарэзлівы аўтарскі гумар часам ператвараецца ў надакучлівыя сентэнцыі.

У гэтым спектаклі заняты здольны калектыў тэатра. Але цяжка назваць акцёра, які вылучыўся б з усіх і бліснуў выдатным майстэрствам. Праўда, найбольш блізкі да выяўлення задумы аўтара акцёр З. Стома ў вобразе маляра. У яго сцэнах ёсць гумар і выразныя сатырычныя акцэнты.

Нягледзячы на намаганні артыста Б. Уладамірскага, яго Пятро не выклікае да сябе асаблівай сімпатыі, а ўспрымаецца, як апантаны, дзівакаваты чалавек. Акцёр не раскрыў дастаткова глыбока аўтарскага гумару, і таму рад эпізодаў у дзейнасці героя выглядае штучна, ненатуральна.

Нельга сказаць, што спектакль «Трэцяе жаданне» ў купалаўцаў падрыхтаваны абыякава. Адчуваецца старанная праца рэжысёра, ёсць шмат акцёрскіх знаходак, але не хапае «чароўнага званочка», каб усё стала на сваё месца і спектакль заіскрыўся, заіграў усімі колерамі. Спектакль патрабуе болей святла, бадзёрай музыкі, больш выразнага сцэнічнага рытму.

Цікава ўспрымаецца афармленне мастака К. Андрэева. Яно вельмі скупое і разам з тым дастаткова выразнае, адпаведнае зместу п'есы і рэжысёрскай задуме.

Мы не думаем, што Тэатр імя Я. Купалы збяднеў камедыйнымі талентамі, але ў гэтай камедыі абмежаваны выдатныя магчымасці творчага калектыву.

**С. ПЯТРОВІЧ.**

## Цікавая размова

У рэдакцыі нашай газеты адбылася сустрэча з аўтарскім актывам — пісьменнікамі, крытыкамі, літаратуразнаўцамі.

У шчырай і цікавай размове аб тым, як палепшыць асвятленне літаратурнага жыцця на старонках газеты, удзельнічалі Ул. Юрэвіч, Н. Перкін, В. Бурносаў, Я. Скрыган, Р. Шкраба, А. Яскевіч, В. Каваленка, В. Івашын, Я. Герцовіч, А. Адамовіч і іншыя.

Рэдкалегія газеты выносіць шчырую падзяку ўсім таварышам, якія прысутнічалі на сустрэчы.

Галоўны рэдактар Нічыпар ПАШКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Заір АЗГУР, Аляксандр БУТАКОЎ, Кастусь ГУБАРЭВІЧ, Васіль ІВАШЫН, Аркадзь МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), Пятро ПРЫХОДЗЬКА, Раман САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола ТКАЧОЎ, Янка ШАРАХОЎСКІ, Іван ШАЦІЛА, Рыгор ШЫРМА.